№9(30)
2001г.
верасень

# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Грамадска - палітычная, асветніцкая газета

Выдаецца са жніўня 1996 г.

Кошт свабодны

*Адкрыйце для сябе невядомае ў:*
- *гісторыі,*
- *помніках былых часоў,*
- *сучаснасці і*
- *славутых людзях*

***Жыцькава***

*Пра ўсё гэта чытайце на старонках* **6-7**

# *Вытворчасці запалак у Новабарысаве 100 год!*

*Пра гісторыю развіцця вытворчасці запалак у Новабарысаве чытайце на старонцы* **5**

***Вываз скрынак з запалкамі з фабрыкі ў 20-х гадах XX стагоддзя***

*Апошнія падзеі на Барысаўшчыне* **1-2** стар.

*Якую ваду мы п'ем?* **3** стар.

*Жахі нашага гарадка* **4** стар.



*Барысаўшчына ў 1812 годзе* **8** стар.



*Футбольны агляд* **10** стар.

*Крыжаванкі* **12** стар.

*Конкурс для заўзятараў футбола* **12** стар.

## Даеш аўтобусізацыю горада!

Нядаўна барысаўскі аўтобусны парк АП-3 узбагаціўся на 10 новых аўтобусаў МАЗ. Праўда, рэальная колькасць павелічэння мен-скіх аўтобусаў на дарогах Барысаўшчыны трошкі меней. Так, для "кампенсацыі" набыткаў 20 верасня адзін з больш старых аўтобусаў МАЗ "вярнуўся з работы" ў аўтапарк на буксіры ўшчэнт разбіты. Але гэта страта ненаўмысная, якую прадбачыць практычна немагчыма. Большую трывогу выклікае магчымасць захавання набытых МАЗаў ад страт наўмысных. Як захаваць новыя аўтобусы ў прыстойным выглядзе ад сучасных вандалаў?

***Служба інфармацыі "ГБ"***

## Нашы пластмасавыя вырабы – лепшыя!

20 верасня ва ўрачыстай абстаноўцы заводу пластмасавых вырабаў быў уручаны сертыфікат якасці. Гэта, акрамя ўсяго іншага, зробіць прадукцыю завода больш прывабнай на замежных рынках.

***Служба інфармацыі "ГБ"***

## А пра нашу вуліцу забыліся?

Жыхары нашага горада ганарацца яго старажытнасцю і цікавай гісторыяй.

Тым больш прыемна было прачытаць у газетах пра намеры шмат што адрамантаваць і змяніць да 900-годдзя горада.

Большасць вуліц для ўладкавання замацаваны за прадпрыемствамі, а вось наша вуліца Дзяржынскага ад вуліцы Нармандыя Нёман да Схі як аб'ект, дзе будзе штосьці рабіцца, не значыцца. Думаем, што гэта несправядліва, тым больш, што па гэтай вуліцы ходзяць гарадскія і прыгарадныя аўтобусы.

***М.Саўчык***

## "Чыгуначніку" – наша пашана

14 верасня пасля капітальнага рамонту адчыніла свае дзверы крама "Чыгуначнік". Афармленая ў "еўрастылі" яна пакідае прыемныя ўражанні і мала чым нагадвае былы магазін.

Прыемна адзначыць, што вонкавае і ўнутранае афармленне выканана па-беларуску, што ўпрынцыпе натуральна, але апошнім часам так нехарактэрна для Барысава.

Такая павага да беларускасці ў нашых умовах - гэта прыкмета сталасці і саліднасці гаспадароў крамы. Пажадаем ім поспеху!

***Служба інфармацыі "ГБ"***

### *Паважаныя чытачы!*

*Сёння вы атрымалі нумар газеты "Гоман Барысаўшчыны" на 12 замест 8-і старонак. Газета стала не толькі большай па памеру, але і больш разнастайнай па тэматыцы, афармленню. І гэта толькі пачатак! Хацелася б запэўніць сваіх чытачоў, што рэдакцыя прыкладзе ўсе намаганні, каб у самых бліжэйшых нумарах цалкам перайсці на такі фармат выдання.*

*А што мяркуеце вы, нашы чытачы, аб нашай газеце і тых зменах, што адбываюцца ў ёй апошні час. Што вам больш цікава, што менш? Што вы лічыце пажаданым яшчэ ўдасканаліць у газеце? Пішыце, бо газета выдаецца менавіта і толькі для вас.*

***Рэдакцыйная рада газеты "Гоман Барысаўшчыны"***

### *Мы ў хуткім часе зможам сустракацца!*

*З пачатку існавання газета "Гоман Барысаўшчыны" адчувае цяжкасці з сустрэчамі са сваімі чытачамі. Але ў хуткім часе ўсё зменіцца. У кастрычніку наша выданне адкрывае*

***карэспандэнцкі пункт***

*у цэнтры Барысава па адрасе:*

***праспект Рэвалюцыі, 33.***

*Мяркуецца, што першы час ён будзе працаваць раз на тыдзень.*

*Сачыце за абвесткамі.*

*Працягваецца падпіска на нашу газету на чацвёрты квартал.*
*Нагадваем, што падпісны індэкс нашай газеты*

**64184**

***Кошт індывідуальнай падпіскі без тэлевізійнага дадатку:***
на **1** месяц - **120** руб., на **3** месяцы - **360** руб.
***Кошт індывідуальнай падпіскі з тэлевізійным дадаткам:***
на **1** месяц - **400** руб., нз **3** месяцы - **1200** руб.
***Кошт ведамаснай падпіскі без тэлевізійнага дадатку:***
на **1** месяц - **180** руб., на **3** месяцы - **540** руб.
***Кошт ведамаснай падпіскі з тэлевізійным дадаткам:***
на **1** месяц - **500** руб., на **3** месяцы - **1500** руб.

## Ад нумара да нумара

**Святы**

*16 верасня ў памяшканні СШ № 18 вучні школы выхаднога дня і іх бацькі ўрачыста адзначылі 5762-і іудзейскі новы год.*

**Духоўнасць**

*Яшчэ адна, трэцяя, пратэстанцкая царква пабудавана ў горадзе. Яна месціцца каля камбіната "Барысаўдрэў". Пастар Сяргей выказаў меркаванне, што яе адкрыццё паўплывае на паляпшэнне маральнага клімату барысаўцаў.*

* * *

*Распачаліся падрыхтоўчыя работы па будаўніцтву праваслаўнай царквы ў Лядзішчах.*

**Аднаўленне**

*У Лошніцы пасля васьмігадовага перапынку адчыніў свае дзверы кінатэатар "Юнацтва". Гэта стала падставай для правядзення яркіх забаўляльных мерапрыемстваў.*

**Аварыі**

*17 верасня на вадаправодзе "Неманіца" адбылася адна з найбуйнейшых аварый за апошнія гады. На час, пакуль большасць горада засталася без вады, яе развозілі на спецыяльных водавозах.*

**Круглы стол**

*У Барысаве прайшоў круглы стол на тэму "Мы і нашы правы". На ім абмяркоўваўся стан у нашым грамадстве правоў інвалідаў.*

**Фестывалі**

*На Менскім абласным фестывалі народнай творчасці "Напеў зямлі маёй", які адбыўся другога верасня, народны ансамбль народнай песні і музыкі са Старабарысаўскага Дома культуры "Траецкія музыкі" атрымаў дыплом III ступені, а ансамбль скрыпачоў "Аніма" з Барысава атрымаў прыз ад Менскага абласнога камітэта па справах моладзі.*

**Кінематограф**

*У вайсковым гарадку Печы адбыліся здымкі масавых сцэн чарговага мастацкага фільма рэжысёра Пташука.*

**Злёты**

*Па выніках Рэспубліканскага турыстычнага злёту, які адбыўся 19 верасня на рацэ Іслач (Валожынскі раён), каманда горада Барысава заняла першае месца ў камандны барацьбе. Нашы турысты ўзнагароджаны дыпломамі і памятным кубкам.*

**Спаборніцтвы**

*16 верасня ў Барысаве сярод школьнікаў горада прайшло першынство горада па тэхніцы пешаходнага турызму.*

*Служба інфармацыі "ГБ"*





*На сённяшні час рэдакцыя газеты "Гоман Барысаўшчыны" не атрымала з Барысаўскага гарвыканкама адказ на свой зварот, які быў надрукаваны ў мінулым нумары. Пры яго паступленні ён будзе адразу надрукаваны.*

*Рамонт ходнікаў у цэнтры старога горада (злева). Вокны гандлёвых радоў так і застануцца амаль на ўзроўні зямлі?*

*Свежыя гурбы з пяску і будаўнічага смецця на месцы рова барысаўскага гарадзішча (знізу)*



## Апасенні апраўдваюцца

Зараз каля гандлёвых радоў у цэнтры старога горада працягваецца рамонт ходнікаў з укладкай пліткі. На жаль, тыя апасенні, што ўказваліся ў звароце да старшыні Барысаўскага гарвыканкама ў сувязі з падрыхтоўкай да 900-годдзя горада, апраўдваюцца. Рамонт ходнікаў здзяйсняецца без уліку першапачатковага ўзроўню будынкаў над зямлёй. Больш таго, укладка такіх "грунтоўных" ходнікаў сведчыць аб тым, што ніякая рэстаўрацыя гандлёвых радоў не плануецца.

Не лепей зараз стан спраў на замчышчы. Рэшткі абарончага рова і само замчышча XIV – XIX стагоддзяў пад салодкія абяцанні да падрыхтоўкі да юбілею горада, якія чуваць паўсюль, працягвае засыпацца.

*В.Стэфановіч*

## Дзеці – будучыня краіны

Менавіта пра іх, пра дзяцей, пра іх адукацыю гаварылі педагогі горада на сваім пленарным паседжанні, якое адбылося 29 жніўня ў Палацы культуры. На форуме прысутнічалі імянітыя госці: Гумінскі В.А. – дэпутат Палаты прадстаўнікоў ад нашага горада, першы намеснік старшыні Менскага аблвыканкама Дражын У.Н., міністр юстыцыі РБ Шчарбакоў Ю. і старшыня гарвыканкама Бургун В. І.

І даклад загадчыка аддзела адукацыі Бойкі А.А., і выступленні педагогаў – усе нацэльвала на выкананне рэформы школы, на выкарыстанне новых адукацыйных тэхналогій.

У навучальных установ горада ёсць дасягненні, якія былі выражаны ў лічбах: 47,6% вучняў горада ахоплены дыферэнцыраваным навучаннем, пяць гадоў запар горад займае I месца ў абласной алімпіядзе, 38 класаў горада працуе па новай тэхналогіі Эльканіна – Давыдава, 45 класаў – па тэхналогіі "Крок за крокам". Але былі і трывожныя лічбы: больш за 50% вучняў горада слаба засвойваюць праграму, у школах шмат другагоднікаў, па – ранейшаму высокая падлеткавая злачыннасць, падлеткі, як і дарослыя, не пазбягаюць алкаголю, расце небяспека наркаманіі.

І яшчэ адзін, можа быць, самы трывожны фактар – большасць вучняў падыходзіць да заканчэння школы ўжо з аслабленым здароўем.

Як сумясціць высокія вучэбныя нагрузкі і зберагчы здароўе дзяцей?

На гэтае пытанне, на жаль, пакуль адказу няма.

І усё ж, пабыўшы ў атмасферы адукацыйнай грамадскасці горада, паслухаўшы размовы настаўнікаў у перапынках пленарнага паседжання, пераканаўся, што справа адукацыі ў руках нераўнадушных людзей.

*М.Пучыла*

## Чаму б не зрабіць на карысць усім?

Зараз, у сувязі з набліжэннем 900-годдзя Барысава, шпаркімі тэмпамі распачата рэканструкцыя шэрагу гарадскіх вуліц. У сувязі з гэтым хацелася б унесці адну прапанову.

Як вядома, транспартная праблема то больш востра, то менш паўстае ў горадзе практычна перад усімі. Але часта яна можа быць проста вырашана на асабістым узроўні з дапамогаю ровара, што многія жыхары і робяць. Тым больш, што інфраструктура горада часта проста сама вымушае рабіць такі выбар. Напрыклад, вам трэба дабрацца з раёна Танкавага завода да 4-й паліклінікі, ці наадварот. На машыне па гарадскіх вуліцах гэта будзе далёкі шлях са шматлікімі скрыжаваннямі і святлафорамі. Не менш простым ён будзе і на гарадскіх аўтобусах. На ровары ж напрамкі ён будзе ў 2-3 разы бліжэй. І такіх прыкладаў можна прывесці шмат.

Ці не было б мэтазгодна пры рэканструкцыі вуліцаў горада стварыць інфраструктуру веладарожак і ахоўваемых стаянак для ровараў? Гэта дазволіла б шмат каму аблегчыць і зрабіць больш хуткім і танным для сябе перамяшчэнне па Барысаву, аблегчыла транспартную праблему ў горадзе наогул, і, галоўнае, паспрыяла б здароваму ладу жыцця тутэйшых жыхароў.

Магчыма, што грошы, якія трацяцца на набыццё аднаго аўтобуса, далі б значна большы эфект і карысць, калі б іх патрацілі на ўтварэнне інфраструктуры для веласіпедыстаў горада.

*А.Гурскі*

## Выбары завершаны – вада адключана

9 верасня адбыліся выбары прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Карэспандэнт нашай газеты прысутнічаў падчас іх правядзення на адным з барысаўскіх гарадскіх участкаў.

Шмат дзівосаў яму давялося там убачыць. Напрыклад, нескладзеныя бюлетэні пры ўскрыцці урны для папярэдняга галасавання. Гэта пры тым, што праз адтуліну іх можна было закінуць толькі склаўшы некалькі разоў. У цэлым было зроблена ўсё, каб назіральнікі нічога не змаглі "назіраць". Нават падлік галасоў пракантраляваць не было магчымасці не толькі назіральнікам, але і звычайным сябрам участковай камісіі.

Як ужо паведамлялася, па афіцыйных дадзеных па Барысаву за Гайдукевіча прагаласавала 2,8% выбаршчыкаў, за Ганчарыка 22,1%, за Лукашэнку 67,1%. Па раёну гэтыя лічбы адпаведна склалі 1,2%, 8,3%, 85,5%. Якія ж былі сапраўдныя вынікі галасавання, мы, пэўна, недаведаемся ніколі.

Выбарчая кампанія завершана. Гарачая вада ў Барысаве адключана, кошты пайшлі ўверх...

*Служба інфармацыі "ГБ"*



## Пафарбавалі – і дзіву даліся!

Нават "старажылы" школы № 1 забыліся, калі апошні раз рамантавалі фасад школы. Апошні дзесятак гадоў пануры выгляд будынка ніякім чынам не нагадваў дзіцячую ўстанову.

І вось становішча змянілася. Яшчэ маляры не скончылі працу, як многія раптам заўважылі, што ў школы ёсць карнізы і калоны. Аказваецца, і ў 30-я гады маглі будаваць!?

*М.Пучыла*

# "Aqua omnia sunt"

"Вада існуе ўсюды", - казалі ў старажытным Рыме. Тым не менш, жыхары горада, які стаіць у атачэнні лясоў і балотаў, на працягу дзесяці гадоў пакутавалі ад яе нястачы. Толькі сёлета барысаўцы змаглі нарэшце забыцца пра графік падачы вады. Калі казаць пра смак барысаўскай вады, то хочацца падзяліцца асабістым уражаннем. Гэтым летам давялося пабываць больш як у дзесяці гарадах Расіі на абшары ад Масквы да Краснаярска. І практычна ўсюды нас папярэджвалі: толькі не піце вады з-пад крана. Сапраўды, смак і якасць вады ў Маскве, уральскім Міясе, Кемераве, Новакузнецку, Томску такія, што без грунтоўнай хатняй ачысткі немагчыма ні напіцца, ні зварыць кубак гарбаты. А гэткай смачнай вады, як барысаўская, паспрабавалі мы толькі са свідравіны ў саянскай тайзе. Але гэта суб'ектыўнае меркаванне. Што кажуць людзі, якія штодня забяспечваюць нас вадой?

Адкуль прыходзіць вада, якую мы ўжываем? Якую яна мае якасць? Што было зроблена сёлета для паляпшэння водазабеспячэння горада? Як улічваецца колькасць вады, спажытай насельніцтвам, і як аплачваецца? На гэтыя і іншыя пытанні нам адказала Ганна Аляксандраўна Іванова, начальнік вытворчага аддзела камунальнага унітарнага прадпрыемства "Барысаўводаканал":

* * *

Уся вада для патрэбаў горада паступае з артэзіянскіх свідравін, з Бярэзінска-Дняпроўскага і Бярэзінска-Сожскага ваданосных гарызонтаў, якія залягаюць на глыбіні ад 60 да 90 м. Вада падымаецца цераз тры водазаборы: "Неманіца", "Лядзішча" і "Ваенны гарадок Лядзішча", якія налічваюць 56 свідравін, з якіх сёлета дванаццаць былі аднаўленыя, гэта значыць, перабураныя нанава, што дазволіла значна павялічыць колькасць вады, якая з іх паступае. Акрамя таго, буравікі з гомельскага прадпрыемства "Дэльта", якія праводзілі гэтыя работы, паставілі на свідравінах вельмі якасныя сучасныя фільтры. Такая рэканструкцыя дазволіла павялічыць пад'ём вады на 200 тысяч кубаметраў штомесячна. Дасягнуты ўзровень дазваляе падаваць ваду жыхарам горада бесперапынна на працягу ўсяго дня. Ноччу напор вады змяншаецца і падтрымліваецца на ўзроўні дастатковым для патрабаванняў пажарнай бяспекі. На водазаборах у начны час ідзе напаўненне рэзервуараў. Трэба адзначыць, што пасля адмены графіка адразу павялічыўся аб'ём вады, спажытай насельніцтвам. У мінулым месяцы барысаўцы скарысталі на свае патрэбы на 100 кубаметраў вады больш, чым звычайна.

* * *

Якасць вады, якая падымаецца з вышэйназванай глыбіні, адпавядае дзяржаўным стандартам і не патрабуе дадатковай ачысткі. Гэтая адпаведнасць пастаянна правяраецца лабараторыяй "Водаканала", якая вядзе рэгулярны бактэрыялагічны, хімічны і радыёметрычны кантроль. Вада правяраецца на пах, прысмак, колернасць, мутнасць, наяўнасць нітрытаў і нітратаў, жорсткасць, кантралюецца ўзровень наяўнасці жалеза, медзі, фтору, хрому, стронцыю і яшчэ цэлага шэрагу хімічных элементаў. Трэба адзначыць, што стандарты, якія дзейнічаюць у нашай краіне, па многіх параметрах больш строгія, чым заходнееўрапейскія, дзе шырока практыкуецца ачыстка вады праз хатнія фільтры.

* * *

У пачатку 90-х гадоў прэса пісала пра забруджванне падземных водаў на водазаборы "Лядзішча" хромам і свінцом. Трэба сказаць, што інфармацыя пра забруджванне свінцом не адпавядала рэчаіснасці, а вось забруджванне вады хромам назіралася на некалькіх свідравінах. Менскія геолагі лічаць, што гэта звязана з захаванымі ў час вайны адходамі вытворчасці танкавага завода. На сённяшні дзень усе свідравіны, якія давалі ваду з павышаным узроўнем хрому выведзены з эксплуатацыі і затампанаваны. Зліквідавана і ферма ў раёне водазабору "Неманіца", прысутнасць якой пагражала якасці здабываемай вады.

* * *

Улік вады, скарыстанай прадпрыемствамі горада, вядзецца ў абавязковым парадку па лічыльніках. Індывідуальныя лічыльнікі ў квартэрах гараджан пакуль што рэдкасць. Поўнасцю імі абсталяваны толькі дамы, здадзеныя ў эксплуатацыю пасля 1995 года. Прыблізна на 30 працэнтах жыллёвага фонду адлік праводзіцца па групавых лічыльніках, г.зн. што на шматпавярховы дом усталяваны адзін лічыльнік, а колькасць спажытай вады раскідваецца на жыхароў адпаведна колькасці жыльцоў у кожнай кватэры. Колькасць вады, якую ўжываюць іншыя жыхары горада, падлічваецца па нарматывах, якія зацвярджаюцца Менаблвыканкамам.

* * *

Па пытанню ўстаноўкі кватэрнага лічыльніка можна звярнуцца як ў "Водаканал", так і ў любую арганізацыю, якая мае ліцэнзію на такія работы. Скідак на ўстаноўку лічыльніка не прадугледжваецца, але існуе скідка для спажыўцоў, якія жывуць у дамах, уведзеных у эксплуатацыю раней 1995 года. Пасля ўсталявання лічыльніка на працягу трох гадоў плата за карыстанне вадой змяншаецца на 10 працэнтаў. Прадпрыемства "Водаканал" мае свой цэх па рамонту і паверцы лічыльнікаў, які абслугоўвае як прадпрыемствы, так і насельніцтва.

* * *

Што тычыцца памеру аплаты за карыстанне вадой, то ён вызначаецца не прадпрыемствам, а міністэрствам эканомікі. На сённяшні дзень насельніцтва аплачвае прыблізна трэцюю частку выдаткаў на падачу вады. Безумоўна, што гэтае становішча ненатуральнае і плата паступова расце. Будзе яна павышацца і надалей. У такіх умовах выкарыстанне індывідуальных лічыльнікаў аблегчыла б для барысаўцаў цяжар пераходу да стопрацэнтнай аплаты за камунальныя паслугі.

*Запісала Е.Гракові́ч*

# Маленькі юбілей



На вуліцы Чапаева насупраць завода "Аўтагідраўзмацняльнік" вось ужо дзесяць год будуецца спартыўны комплекс. Пачыналася яго ўзвядзенне яшчэ ў часы Савецкага Саюза. Будаўніцтва то пачыналася, то спынялася, то зноў аднаўлялася. І так шмат разоў. Зараз засталося дабудаваць зусім трошкі – дарабіць сцяну, дах і правесці пэўныя ўнутраныя работы. Колькі яшчэ год спатрэбіцца на гэта?

# Прыгажосць і атрута ідуць побач?

Кожны час года мае сваю непаўторную адметнасць, па свойму ўпрыгожвае наваколле. Зімою белы покрыў утварае адчуванне чысціні. Нават смецце і неўладкаваныя сцежкі пад нагамі становяцца нябачнымі. Вясною ўсё пачынае аджываць, расці шпаркімі тэмпамі – надыходзіць свята жыцця. Лета са сваёй сонечнай спякотай і росквітам навакольнага жыцця так уздзейнічае на людзей, што ўсе думкі толькі пра адпачынак. Але надыходзіць восень. Яна на непрацяглы час яркімі жоўтымі і чырвонымі лісцямі, якія лётаюць у паветры, і, упаўшы, утвараюць на зямле лёгкія паветраныя дываны, што так мілагучна шапочуць пад нагамі. У такі час усё навокал нас ператўвараецца у чароўны свет, які нікога не можа пакінуць абыякавым да сваіх яскравых фарбаў.

Але за любым святам прыходзяць будні. Лістота хутка ападзе, праз некалькі дзён паблякнуць яе фарбы, а потым яна можа проста ператварыцца ў бруд. Такая перспектыва каля ўласнага дома ці на гарадской вуліцы не шмат каго вабіць. Каб гэта пазбегнуць, апаўшую лістоту намагаюцца найхутчэй убраць.

Часта яе проста спальваюць. Пры гэтым нярэдка ў бязветранае надвор'е над Барысавам дым ад такіх вогнішчаў, якіх адначасова ў горадзе бывае не адна сотняў, становіцца асноўнай крыніцай забруджвання наваколля. У паветра выкідваецца велізарная колькасць шкодных рэчываў, якія расліны назапасілі за ўсё лета. Нядаўняя прыгажосць ператвараецца ў атруту, якую без свайго жадання вымушаны "спажываць" усе тутэйшыя жыхары.

Такое масаве, паступовае непрыкметнае "самаатручванне" адбываецца амаль штогод. Ці варта змаганне за чысціню такіх ахвяраў? Можа мае сэнс выкарыстоўваць больш экалагічна чысты спосаб пазбаўлення ад старой ліствы.

Акрамя таго, тая біялагічная энергія, што застаецца ў лістве, пры спальванні не вяртаецца ў зямлю, гіне бессэнсоўна, а глеба з года ў год становіцца ўсё бяднейшай.

*А.Роўда*

# Фэст

*З 12 па 15 верасня ў культурным жыцці Барысава адбылася цікавая падзея - фестываль моладзі, які сабраў таленавітых маладых людзей з многіх гарадоў Беларусі і Расіі. На сцэнах ГПК і ДК завода "Аўтагідраўзмацняльнік" паказаны музычныя і тэатральныя відовішчы, уваход на якія быў бясплатным.*

У рамках фестывалю 13 і 14 верасня ў ДК "Аўтагідраўзмацняльніка" прайшоў конкурс КВЗ, у якім бралі ўдзел каманды з Барысава, Жодзіна, Смалявічаў і падмаскоўных Мыцішчаў. Мне ўпершыню давялося пабываць на такім конкурсе, і мяне прыемна здзівіла цёплая, прыязная атмасфера, панаваўшая ў глядзельнай залі. Тутэйшая і прыезджая моладзь актыўна перажывала за свае каманды, не перашкаджаючы, разам з тым, іх выступленню. Юныя ўдзельнікі дэманстравалі высокі ўзровень артыстызму. Найбольш цікавым мне здаўся конкурс "Дамашняе заданне". Самай вясёлай і знаходлівай была каманда гасцей рэспублікі, якая і перамагла, хаця і з невялікім адрывам ад саперніка. У час іх выступлення зала проста дрыжэла ад рогату. На другім месцы каманда са Смалявічаў, жодзінцы - на трэцім, барысаўцы, адпаведна, на чацвёртым. Акрамя таго, былі вызначаны і ўзнагароджаны "Самы лепшы капітан", "Самы лепшы КВЗ-шчык, КВЗшчыца", "Самы юны ўдзельнік" і каманда, якой належыў "Самы вясёлы жарт".

Думаю, што і гледачы, і ўдзельнікі свята на доўгі час атрымалі зарад добрага настрою, а таксама спадзяюся, што такія імпрэзы будуць праходзіць яшчэ і як мага часцей.

*А.Шмідт*

# Выставы



З 13 па 15 верасня ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы прайшла выстава беларускіх і расійскіх мастакоў. На экспазіцыі было прадстаўлена каля 50 карцін.

*Служба інфармацыі "ГБ"*



З 7 па 30 верасня ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы праходзіць выстава былога барысаўца, а зараз менчука мастака Валерыя Шкарубы. Экспазіцыя мае назву "Паміж небам і зямлёй". Яна ўключае 15 пейзажаў беларускай прыроды.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

*Мой нябожчык дзядуля любіў складаць лісты. І кожны свой ліст да нас у Сібір ён скончваў словамі: "Барысаў наш расце і прыгажэе". Што, дарэчы, тады, у 70-80 гады мінулага стагоддзя, было чыстай праўдаю. Што датычыцца сённяшняга часу, дык магчыма і не шпарка расце наш родны горад, але прыгажэе, безумоўна, і зараз, асабліва напярэдадні свайго 900-годдзя. І як заўсёды, на фоне прыгажосці і парадку ўсё больш нахабна лезуць у вочы з'явы, якія я, "очкастый частный собственник", называю па Стаянаву і Алейнікаву - "жахі нашага горадка".*

*Такім чынам, "жахі нашага гарадка" вачамі аўтааматара*



① *"Мёртванароджаныя" светлафоры на скрыжаванні вуліц Будаўнікоў і Трусава*

② *Вуліца Дзяржынскага ў раёне базара ў старой частцы горада*

③ *Каля Новабарысаўскага рынка вельмі складана знайсці свабоднае месца для паркоўкі*

④ *Вуліцы нашага горада - гэта, пэўна, адзінае месца, дзе пануе поўная свабода і "дэмакратыя"*

⑤ *Пешаходны пераход каля рэчавага базара "Стадыён" - адно з найбольш напружаных месцаў*

# Жахі нашага гарадка

**Жах першы:** пад'езды да старога рынка. Прывабіўшы пакупніка-вадзіцеля таннымі сельскагаспадарчымі прадуктамі, стары рынак помсціць яму тым, што не выпускае са свайго наваколля, пакуль не прымусіць праехацца па брудных калдобінах вуліцы Дзяржынскага альбо па Савецкай, што аднолькава "прыемна". Зразумела, юбілей, які зараўнуе гэтыя страшэнныя калдобіны і пакрые старажытныя вуліцы новым асфальтам, а можа, дасць Бог, і прыгожым брукам, не за гарамі. Усяго год чакаць. Але я, заклятаы ўласнік, думаю са страхам - няўжо яшчэ год біць падвеску і рызыкаваць глушыцелем ля такой прывабнай крамы "Меркурий" дзеля некалькіх кг смачных старабарысаўскіх памідораў ці гуркоў.



**Жах другі:** непрацуючыя святлафоры. Гэтая хвароба, вялабягучая ў папярэднія гады, сёлета перайшла ў эпідэмію. Праблема, зразумела, вядомая. Але хацелася б звярнуць увагу гарадскіх уладаў на тое, што не толькі машыны б'юцца, як велікодныя яйкі (дарэчы, колькасць ДТЗ сёлета заўважна павялічылася). Кожны дзень рызыкуюць жыццём усе барысаўцы, у тым ліку нашы маленькія грамадзяне. Паглядзім на раён вуліцы Гагарына ля стадыёна. Гэта не толькі гандлёвы цэнтр і сучасныя банкі, але і некалькі сярэдніх школаў, ліцэй, мастацкая школа і стадыён, дзе займаюцца юныя футбольныя таленты. Штодня дзеткі перабягаюць туды-сюды цераз небяспечную вуліцу, а ў матуль сівеюць валасы з-за пастаяннай трывогі за іх жыццё. Зразумела, вялікая адказнасць ляжыць на вадзіцелях транспарта. Але ж яны таксама людзі, і ім вельмі цяжка прыходзіцца ў гэтакай блытаніне.



**Жах трэці:** паркоўка ў раёне Новабарысаўскага рынка. Як бы ні балела душа ў старажыла горада, што наш ціхі, утульны Барысаў пачынае поўніцца аўтатранспартам, гэтага не пазбегнуць. Мы мусім думаць пра тое, як спалучыць інтарэсы ўсіх жыхароў, каб усім было і зручна, і ўтульна. Што робіцца ля Новабарысаўскага рынка, асабліва па выхадных днях, ведаюць усе, хто там бывае. Пешаходы толькі паспяваюць бараніцца ад жалезных жукоў, якія бесперапынна таўкуцца, спрабуючы знайсці месца для стаянкі. Новы рынак не мінае зараз ніводзін чалавек за рулем, бо тут склаўся цэнтр гандлю рознымі аўтапрыладамі. Яго наведваюць не толькі барысаўцы, але вадзіцелі з Жодзіна, Бабра, Крупак і іншых месцаў. Не пазайздросціш жыхарам навакольных дамкоў. Вулачкі маленькія, вузкія, яны не вытрымліваюць гэтай аўтамабільнай пошасці. Патрэба ў вялікай новай аўтастаянцы, мне здаецца, не толькі наспела, але ўжо пераспела. Другі шлях: стварыць на зручнай для гандляроў і пакупнікоў пляцоўцы адмысловы аўтарынак.



Некалькі слоў пра большую і лепшую палову чалавецтва - пешаходаў. Як слушна заўважылі незабыўныя Ільф і Пятроў, менавіта пешаходы стварылі аўтамабіль і парадзілі цэлы клан аўтамабілістаў, якія адразу зрабіліся проста крэўнымі ворагамі пешаходаў. Амаль кожны барысаўскі пешаход, мабыць, скажа, што аўтамабілісты ў нашым горадзе пешаходаў не паважаюць, у адрозненне ад Захаду, дзе іх шануюць і берагуць. Але ж я асмелюся заўважыць, даражэнькія, што там, на гэтым цудоўным Захадзе, і пешаходы шануюць і паважаюць аўтамабілістаў, ведаючы свае правы і абавязкі. Калі бачаць намаляваную на дарозе "зебру", то смела і спакойна ідуць па ёй, а ў іншых месцах на дарогу не лезуць, ведаючы, што гэта забароненая тэрыторыя.

Назіраць за пешаходамі нашага гарадка вельмі цікава. Тыя з іх, хто паслухмяна пераходзяць вуліцу ў месцах, для гэтага вызначаных, як правіла, людзі надзвычай сціплыя і няўпэўненыя. Калі я бачу чалавека, які смела ідзе па белых палосках цераз вуліцу, то хочацца выказаць яму падзяку за добрае веданне сваіх правоў. Звычайна бывае наадварот. Трэба мець вялікае цярпенне, каб праехаць, прыкладам, па праспекту Рэвалюцыі. Спыняешся перад "зебрай", махамі рукі, запрашаючы пешахода прайсці. Не, ён будзе таптацца ля бардзюра і не адразу пойдзе. А калі пойдзе, то чакай, што знянацку можа і павярнуцца ды пабегчы назад, да выратавальнага тратуара, як зрабіла днямі адна бабуля. На чацвёртай ці пятай "зебры" прапускаць такіх пешаходаў ужо не хочацца, але трэба...

Зусім не тое пешаход, які пераходзіць вуліцу там, дзе ён захоча. Гэта адважны, упэўнены ў сваёй праваце чалавек і абсалютна непрадказальны. Дарогу ён пераходзіць звычайна не па перпендыкуляры, як можна было спадзявацца, а па дыяганалі, альбо наогул па мудрагелістай траекторыі, кіруючыся сваімі мэтамі, а часам і сваімі летуценнямі. Такіх, летуценных, як без градуса, так і пад градусам асабліва даводзіцца асцерагацца вадзіцелю. А яшчэ мяне проста кранаюць мамы, якія бягуць між машын, трымаючы за руку малое дзіцё. Няўжо цяжка зразумець, якія наступствы могуць мець гэткія безадказныя паводзіны?

І ўжо канчаткова расчульваюць сваёй даверлівасцю пешаходы, якім падабаецца ісці па дарозе не насустрач транспарту, а спіной да яго. Як ні заклікаюць кінуць гэтую небяспечную звычку міліцыя, прэса і тэлебачанне - яны ўсё ідуць і ідуць. Я гляджу на гэтыя спіны з акна аўтамабіля і губляюся ў здагадках: "Чаму яны мне, вадзіцелю, гэтак даяраюць?" А раптам на нейкай вузкай вуліцы, прыкладам, Дымкі, трэба будзе размінуцца з моцным грузавіком, і мы ўсе разам сустрэнемся. Няўжо я буду павінна кінуцца са сваёй машынай на цяжкі грузавік, каб выратаваць празмерна даверлівага небараку, які не бачыць, што робіцца на дарозе?

***Шаноўныя землякі, пешаходы і вадзіцелі! Давайце ісці насустрач адзін аднаму ў прамым і пераносным сэнсе, каб мы не палохалі і не пракліналі адзін аднаго, а жылі побач доўга і шчасліва ў гэтым цудоўным старажытным горадзе - нашым Барысаве.***

*Е.Гракові*ч







*Прыгатаванне запальваючай сумесі (злева). Крайні злева - майстр Гінзбург.*

*Пачатковы працэс вытворчасці запалак (зверху). Падрыхтоўка асіны для разразання на чушкі.*

*Агульны выгляд фабрыкі (знізу)*



# Вытворчасці запалак у Новабарысаве 100 год

*Пэўна, самы вядомы тавар, які вырабляюць у нашым горадзе і па якому ведаюць Барысаў не толькі на Беларусі, а і за яе межамі, - гэта запалкі. Нямала слоў сказана пра іх недастатковую якасць, шмат складзена на гэтую тэму анекдотаў. Аднак без іх як 100 год таму, так і зараз ніхто не можа абысціся.*

*Тутэйшыя вытворцы запалак у Барысаве ўжо даўно сталі практычна манапалістамі ў сваёй галіне на Беларусі ды і не толькі. Аднак не так проста ўсё пачыналася.*

З 1891 года ў Барысаве на левым беразе Бярэзіны існавала запалкавая фабрыка "Вікторыя", якая была заснавана і кіравалася кампаніяй "Саламон і Гершман". Тэхнічным кіраўніком фабрыкі быў пляменнік Гершмана Ісідор Берман. У 1896 годзе пры крушэнні цягніка Гершман быў забіты, а яго частка ўласнасці фабрыкі перайшла да яго жонкі. Прадпрыемства дынамічна развівалася і добра працавала, давала немалы прыбытак. Відаць таму Саламонаў меў на мэце стаць адзіным яго ўладальнікам. Без вялікіх праблем ён угаварыў удаву Гершмана прадаць сваю частку фабрыкі за 25000 рублёў. Аднак з пазбаўленнем ад Бермана былі праблемы. Пляменнік Гершмана быў адзіным, хто валодаў таямніцай прыгатавання запалкавай масы. У дадатак ён быў вельмі энергічным і кваліфікаваным кіраўніком.

Саламонаў знайшоў наступнае рашэнне сваёй "праблемы". Ён угаварыў Бермана пабудаваць новую запалкавую фабрыку ў Магілёве на супольных пачатках. Берман мусіў асабіста паехаць у горад над Дняпром, каб выбраць месца для вытворчасці. Паколькі ён быў адзіным знаўцам прыгатавання запалкавай сумесі, то вымушаны быў перад ад'ездам перадаць яе "таямніцу" камусьці са службоўцаў фабрыкі. Саламонаву ж гэта і трэба было, і адразу па ад'езду Бермана з Барысава ён быў звольнены.

Пакрыўджаны Берман не здаўся. Ён звярнуўся да вядомага тутэйшага землеўладальніка І.Каладзеева з просьбай дапамагчы яму з будаўніцтвам новай фабрыкі ў Новабарысаве. Каладзееў быў зацікаўлены ў развіцці Новабарысава, таму вылучыў у арэнду Берману неабходную для будовы вытворчасці запалак зямлю ў паўвярсты ад чыгуначнай станцыі.

Уласныя сродкі Бермана абмяжоўваліся 6000 рублёў, што было недастаткова. Каладзееў абяцаў яму выдаць закладную на абсталяванне і ў якасці абаротных сродкаў 23000 рублёў пад 3,5% гадавых у тым выпадку, калі будзе пабудаваны будынак фабрыкі. Берман пабудаваў фабрыку з разлікам вытворчасці да 200 скрынак запалак у дзень. Каладзееў у сваю чаргу стрымаў сваё абяцанне. Такім чынам, 23 кастрычніка 1901 года фабрыка пад назвай "Бярэзіна" пачала працаваць. На ёй выконваўся увесь цыкл вытворчасці запалак, за выключэннем клейкі каробак. Гэту стадыю працаўнікі выконвалі на даму.

Праз 9 месяцаў на шчапальным аддзяленні адбыўся пажар, які яго знішчыў. Аднак фабрыка была застрахавана на 22500 рублёў, таму Берман атрымаў страхоўку і хутка ўсё аднавіў.

Моцную канкурэнцыю "Бярэзіна" мела з боку фабрыкі "Вікторыя". У дадатак прадукцыя Саламонава была больш таннай. Пад другую закладную Берман атрымаў ад вядомага на той час менскага ліхвяра Лур'е 15000 рублёў пад 7,5% гадавых. Аднак справы пайшлі не так, як хацелася б. У 1903 годзе Берман аб'явіў сябе банкротам і ўцёк за мяжу. Каладзееў наклаў арышт на фабрыку і паставіў да яе сваіх вартаўнікоў. Лур'е, каб вярнуць свае грошы, быў вымушаны ўгаворваць Бермана вярнуцца, заняць месца кіраўніка і здаць фабрыку ў арэнду. У кастрычніку 1903 года Берман вяртаецца. Тым часам Лур'е прадае рухомую маёмасць фабрыкі, а саму яе здае ў арэнду тэрмінам на 6 год самому сябе. У выніку гэтых маніпуляцый Берман пачынае дармова кіраваць фабрыкай, а Лур'е без абмежаванняў выдаткоўвае на яе грошы з разліку 7,5% гадавых. Чысты прыбытак дзеліцца папалам. Фабрыка мяняе назву – "Бярэзіна". Арэндатар Лур'е" і пачынае працаваць. Аднак у лістападзе 1904 года адбываецца пажар, ад якога яна цалкам згарае. На гэты раз фабрыка была застрахавана на 24000 рублей. Страхавыя грошы па першай закладной атрымаў Каладзееў і адразу перадаў Берману пад другую закладную на аднаўленне фабрыкі. Дадаў грошы і Лур'е. У выніку фабрыка была хутка аднаўлена і ў лютым 1905 года пачала працаваць.

Асінавая сыравіна для запалкавай саломкі і бяроза для сядзенняў нарыхтоўваліся ў Стара-Барысаве ў маёнтку Вялікага князя Мікалая Мікалаевіча. Хімічныя прадукты набываліся за мяжой.

З пачатку арэнды фабрыкі Лур'е яна пачынае прыносіць прыбытак. Гэта дазволіла ў 1906 годзе арганізаваць дадатковую вытворчасць – выраб сядзенняў. Гэтым займаліся 20 рабочых, якія выпускалі па 30 тузінаў дзірчатых сядзенняў у дзень. У далейшым гэта вытворчасць пашыралася, колькасць працаўнікоў павялічылася да 60, а ў 1911 годзе быў пабудаваны для гэтых мэтаў спецыяльны мураваны корпус. Дзейнічала гэта вытворчасць да 1914 года і была спынена па прычынах пачатку вайны.

Адначасова з вытворчасцю сядзенняў быў пабудаваны двухпавярховы будынак для каробка – клеючых машын і рабочыя перайшлі з дамоў на фабрыку. З пераходам на машынную вытворчасць павялічыўся выпуск запалак да 11000 скрынак у месяц, а колькасць працаўнікоў дайшла да 500 чалавек. У тым жа 1906 годзе на фабрыцы была арганізавана вытворчасць тачак. Гэтым займалася 10 чалавек, якія рабілі 300 тачак за сезон. У такіх умовах Лур'е вырашыў надалей не працаваць на арэндных пачатках, а стаць кампаньёнам. З гэтага моманту фабрыка пачала называцца "Фабрыка "Бярэзіна". Уладальнік Лур'е і Берман". Тэхнічным кіраўніком застаўся Берман, а Лур'е накіраваў на фабрыку сваю даверную асобу.

У першыя гады існавання фабрыкі "Бярэзіна" мела месца жорсткая канкурэнцыя паміж ёю і "Вікторыяй". Па сваёй якасці запалкі фабрыкі "Бярэзіна" былі лепей, але "Вікторыя" прадавала свае запалкі таней. Аднак з далучэннем да справы Лур'е "Бярэзіна" пачала выцясняць "Вікторыю" і змагла захапіць каля 80% ад усяго рынку. Тым не менш рынак збыту быў для "Бярэзіны" недастатковы. Становішча стала горшым, калі ў 1906 годзе быў утвораны запалкавы сіндыкат, які ўсталяваў норму выпрацоўкі запалак, зыходзячы з першых гадоў працы. Таму яшчэ ў 1905 годзе фабрыка накіроўвае свайго прадстаўніка на Каўказ для заключэння дагавароў на пастаўку ў Персію сваёй прадукцыі. Намаганні прынеслі плён. Пасля пачатку друкавання этыкетак на персіцкай мове гэты гандаль пайшоў асабліва добра. У 1906 годзе ў Персію было пастаўлена да 70000 скрынак запалак. У 1907 годзе была заключана дамова на пастаўку туды не менш за 5000 скрынак запалак у месяц з магчымасцю неабмежаванага павелічэння паставак.

Вайна 1914 года закрыла рынак збыту ў Персію. Аднак пачаўся ажыятажны попыт на мясцовым рынку. Восенню 1915 года, пры націску немцаў, частка абсталявання фабрыкі была вывезена ў Мурам. Падзеі лютага 1917 года адбіліся толькі тым, што фабрыка перайшла на 8-і гадзінны дзень замест 10-і гадзіннага. На пачатку 1918 года горад быў акупіраваны немцамі. З-за недахопу сыравіны фабрыка працуе па тры дні на тыдні. Потым пераходзіць на шасцідзёнку. Прадукцыя ў гэты час пастаўляецца на Украіну. Пасля адступлення немцаў фабрыка падпарадкоўваецца Галоўзапалцы ў Маскве. У 1919 годзе пры прыходзе палякаў фабрыка была разрабавана і спыніла сваю дзейнасць. З вяртаннем былых уладальнікаў яна аднаўляе сваю дзейнасць. Пры адступленні палякаў абсталяванне фабрыкі дэманціруецца і яна зноў не працуе. Праз тры месяцы яна аднаўляе сваю дзейнасць. Першым чырвоным дырэктарам фабрыкі быў Ш.Зайндберг.

***Т.Кандзідава,***
***супрацоўнік Барысаўскага дзяржаўнага аб'яднанага музея***

*Фота пачатку 20-х гадоў XX стагоддзя*



Машыннае аддзяленне фабрыкі. Злева машыніст Статкевіч, справа яго памочнік Сяліцкі





*Дом, у якім нарадзіўся і пэўны час жыў В.Гігевіч (зверху)*

*Цэнтральная вуліца Жыцькава - вуліца Ветэранаў (злева)*




# Жыцькава ад слова

*Газета "Гоман Барысаўшчыны" ўжо не раз рыхтавала вялікія матэрыялы пра тутэйшыя вёскі і мястэчкі. Нашы чытачы ўжо мелі магчымасць пазнаёміцца з багатай гісторыяй і слаўнымі сучаснымі традыцыямі Зембіна, Мётчы. Мяркуецца працягваць цыкл такіх публікацый і ў далейшым. Сёння мы знаёмім чытачоў з вёскай Жыцькава Прыгараднага сельсавета.*

Багатыя лясы, невялікая рака, урадлівая глеба – гэта тое, што трэба для ўзнікнення пасялення. Усё гэта ёсць у наваколлях вёскі Жыцькава. Таму не дзіва, што гэты край быў заселены яшчэ ў найстаражытныя часы. Сведчаннем гэтаму з'яўляюцца шматлікія знаходкі старажытных каменных сякераў на працягу XIX, XX стагоддзяў. Захавалася да нашага часу і тутэйшае абарончае пасяленне – гарадзішча, што было ўтворана на ўзвышшы каля Схі ў VI – V стагоддзях да нашай эры. Яно вядома жыхарам вёскі пад назвай "замак".

Са старых часоў да нашых дзён у наваколлі Жыцькава захавалася нямала спрадвечных назваў мясцовасцей, былых дарог. Сярод іх Судава гара. Старыя жыхары казалі, што раней людзі калі праходзілі каля яе, прыціхалі, стараліся прайсці гэта месца хутчэй. Лічылася, што на Судавай гары адбываліся нейкія таямніцы, жыла нячыстая сіла, якая наклікала на падарожнікаў бяду, хваробу. Паходжанне назвы Судава гара ўжо даўно згублена, але відавочна, што там было паганскае капішча. Не выключана таксама, што ў часы сярэднявечча гэта было месца для правядзення копных або якіх іншых судоў.

Дзякуючы людзям, якія шануюць і захоўваюць сваю спадчыну, зберагліся і не згубілі тлумачэння свайго паходжання такія тамтэйшыя назвы, як Забор'е, Глінішчы, Дуброва, Бабнік і многія іншыя. Захаваліся старыя назвы шляхоў: "Канторская дарога" (шлях на Кішчыну Слабаду) і "Радзілаўскі тракт" (шлях на Старабарысаў). Калі ўлічыць, што напрыканцы XVIII – пачатку XIX стагоддзя ў Старабарысаве знаходзіўся галоўны маёнтак Барысаўскага старoства Радзівілаў, то паходжанне назвы тракта становіцца відавочным.

Найбольш старое пісьмовае сведчанне пра Жыцькава можа быць аднесена да 1642 года, калі яно ўзгадваецца ў земскай кнізе Аршанскага павета як сяло. На той час гаспадарыла ў ім Агапія Стэфанаўна, а само сяло адносілася да Барысаўскага замка (Барысаўскай воласці). У 1670 годзе тут было ўсяго 9 двароў.

На пачатку XIX стагоддзя (ў 1800 годзе) у Жыцькаве ўжо было 39 двароў і 305 жыхароў. У 1812 годзе падчас адступлення французаў і іх пераправы цераз Бярэзіну ў Студзёнцы праз Жыцькава праходзіла армія генерала Вітгенштэйна. Пасля вайны тут быў утвораны шпіталь, у якім было размешчана каля 3000 параненых як французаў, так і рускіх. Аднак з-за эпідэміі тыфу, якая пачалася ў хуткім часе, амаль палова з іх загінула.

З 1812 года да нашых дзён дайшлі звесткі, што французы ў вёсцы на старых могілках падчас адступлення схавалі золата. Іх нашчадкі на пачатку XX стагоддзя наведаліся ў Жыцькава і па адзнаках на старой карце спрабавалі адшукаць той скарб. Шмат часу на гэта было згублена, але беспаспяхова.

На працягу XIX стагоддзя з-за вайны 1812 года, яе наступстваў і пазнейшых паўстанняў Жыцькава амаль не расце. Так у сярэдзіне 80-х гадоў XIX стагоддзя ў Жыцькаве быў 51 двор, а колькасць жыхароў вагалася каля 340 – 350. Гэта амаль столькі ж як на пачатку стагоддзя. На мяжы XIX і XX стагоддзяў назіраецца імклівы рост сяла. У 1908 годзе ўжо было 95 двароў (па іншых звестках 79) і 643 жыхароў, а ў 1917 годзе – 92 двары і 643 жыхароў. Дарэчы, у 1908 годзе ў Жыцькаве было 20 студняў, што па тых часах было вельмі шмат для такога населенага пункта.

З даўніх часоў у Жыцькаве існавала царква. У 1873 годзе яна ўзгадваецца як Багародзічная. Знаходзілася царква на могілках і была прыпісана да прыхода ў Неманіцы. Меўся пры ёй звон, які было добра чуваць ва ўсім наваколлі. Побач з царквой была капліца. Знішчана царква была напрыканцы 20-х – пачатку 30-х гадоў XX стагоддзя.

Мела Жыцькава багатую традыцыю правядзення кірмашу. Праводзіўся ён штогод 21 верасня. Пачынаўся кірмаш каля царквы, куды з усёй ваколіцы на падводах у святочных строях з'язджаліся людзі. Праводзілася святочнае набажэнства, на якім тавар асвянчаўся. І толькі пасля таго пачынаўся гандаль. Колькі тут было самага рознага тавару! Самае цікавае, што ўсё прадавалася. Потым людзі разыходзіліся ў госці да сваякоў, знаёмых. Да позняга вечара звінелі песні і чуўся вясёлы гоман у кожнай хаце. І вось дзіва, нельга было сустрэць ніводнага п'янага чалавека!

Больш за сто год існуе ў Жыцькаве школа. Аднак звесткі пра яе досыць супярэчлівыя. У адных крыніцах адзначаецца, што яна была адкрыта ў 1889

*Сучасны стан абарончага пасялення сярэдзіны I тысячагоддзя да н.э. на месцы Жыцькава - гарадзішча (злева), якое тамтэйшыя жыхары называюць "замак"*

*Абарончы вал гарадзішча (справа). Яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя існавала два валы, паміж якімі быў абарончы роў*





*① Млын у вёсцы Жыцькава - адзіны з млыноў, які захаваўся да нашага часу на Барысаўшчыне*

*② Млынар С.Матылёнак - апошні млынар у нашым краі*

*③ Абсталяванне для вырабу круп*

*④ Жорны*

*⑤ Унутры млына*







# “жыщь”?!

годзе. Аднак у журнале другога чарговага Барысаўскага павятовага земскага сходу ўказваецца, што двухкамплектная земская школа ў Жыцькаве заснавана ў 1905 годзе. Гэтая ж навучальная ўстанова ў 1911 годзе называецца двухкамплектным земскім народным вучылішчам, а ў 1917 годзе – аднакласным сельскім вучылішчам.

Войны, рэвалюцыі, рэпрэсіі і іншыя навалы, якія па чарзе змянялі адна адну ў XX стагоддзі, спынілі рост сяла. Сёння ў Жыцькаве пражывае меней за 600 чалавек.

Але не толькі старая гісторыя дае падставу жыхарам Жыцькава для гонару за сваю вёску. Самае каштоўнае ў ёй – яе людзі, асобныя з якіх вядомы не толькі на Барысаўшчыне ці Беларусі, але і за яе межамі. Адзін з іх – таленавіты празаік Васіль Гігевіч. Нарадзіўся ён 3 студзеня 1947 года. Вучыўся ў роднай вёсцы, Харкаўскім дзяржаўным універсітэце імя М.Горкага. Працаваў выкладчыкам фізікі на Харкаўшчыне. З 1970 года працуе інжынерам на Барысаўскім шклозаводзе імя Ф.Дзяржынскага. Прафесіянальнае пісьменніцкае майстэрства ўдасканальваў на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве. Потым працаваў на кінастудыі “Беларусьфільм”, у часопісе “Маладосць”. У 1977 годзе прыняты ў Саюз пісьменнікаў.

Першае апавяданне надрукаваў у “Полымі” ў 1972 годзе. Выдаў зборнікі “Спелыя яблыкі”, “Калі ласка, скажы”, “Жыціва”, “Астравы на далёкіх азёрах”, “Доказ ад процілеглага”, “Мелодыі забытых песень”, “Карабель”, “Марсіянскае падарожжа”. У творчасці В.Гігевіча вельмі цікава спалучаецца глыбокае веданне быту, псіхалогія працоўнага чалавека і праблемы навукова – тэхнічнага прагрэсу.

Жыцькаўская зямля ўзгадавала і такі рэдкі талент спявачкі, які мела Марыя Уладзіміраўна Адамейка. Працавала салісткай у Дзяржаўным народным хоры БССР. Асаблівай папулярнасцю карысталіся ў яе выкананні (і ў дуэце з А.Аўдзеенкай) народныя прыпеўкі і песні.

На працягу дзесяткаў гадоў (з 1953 па 1985 г.г.) на жыцькаўскай зямлі гаспадарыў вельмі каларытны чалавек Юданаў Феадосій Вавілавіч. Да прызначэння на пасаду старшыні калгаса “Маяк камунізму” працаваў на савецкай і гаспадарчай рабоце. Пры ім калгас дабіваўся вынікаў, аб якіх можна толькі марыць сённяшнім кіраўнікам гаспадаркі.

У Жыцькаве нарадзілася і рабіла першыя крокі ў спорце славутая беларуская лыжніца Алена Сінькевіч, якая дамаглася значных поспехаў на міжнародным узроўні (на жаль, некалькі гадоў таму трагічна загінула).

На ўскрайку вёскі ў маляўнічым месцы стаіць школа, у якой, няма ніякага сумнення, сёння падрастаюць тыя, хто памножыць добрыя справы сваіх славутых землякоў.

*Млыны ў Жыцькава існавалі з даўніх часоў. Найбольш старое ўзгадванне пра адзін з іх адносіцца да 1800 года. У 1908 годзе плаціна млына на рацэ Сха мела даўжыню 127 сажняў (271 метр), 3 сажані шырыні (6,4 метра) і 1,5 сажаня вышыні (3,2 метра). Меўся шлюзавы мост даўжынёй 17 сажняў (36,3 метра) і 2 сажні шырыні (каля 4,3 метра). На той момант яны знаходзіліся ў добрым стане.*

*Млын, які захаваўся да нашага часу, быў узведзены ў часы НЭПу і першапачаткова быў на паравой цязе і знаходзіўся ў цэнтры вёскі. На сённяшнім месцы млына ў 1939 годзе была ўзведзена электрастанцыя, якая прыводзілася ў рух вадой ракі Сха.*





*Электрастанцыя была знішчана падчас вайны партызанамі, але ў пасляваенны час была адноўлена. У хуткім часе выпрацоўваць электраэнергію на ёй стала нявыгадна і станцыя зачыняецца. На яе месца перавозіцца млын з цэнтра вёскі, але замест паравой цягі ставіцца спачатку на водную, а ў 60-х гадах XX стагоддзя пераводзіцца на электрычную. Тут можна было малоць муку, рабіць на дранцы крупу.*

*Разам з млыном пэўны час існавала і лесапілка з прыводам механізмаў ад вадзяной цягі ракі Схі. Але яе ўжо даўно няма.*

*Зараз млын працягвае працаваць. Кожную пятніцу тутэйшыя жыхары прыязджаюць да яго, як і шмат стагоддзяў таму іх продкі, каб намалоць збожжа, што выгадавалі на сваіх палетках.*

***Старонку падрыхтавалі М.Мацельскі, Г.Касінская, І.Белы***



*У 1986 годзе ў Жыцькаўскай сярэдняй школе была адкрыта першая зала краязнаўчага музея. Гісторыка – краязнаўчы матэрыял для яго сабраны вучнямі пад кіраўніцтвам Ясяновіч Анастасіі Сцяпанаўны і Котава Рэма Васільевіча. Зараз іх справу працягваюць былыя вучні, а таксама дзеці выпускнікоў школы. Вынікам агульнай працы стала адкрыццё другой залы музея.*

*У першай этнаграфічнай залі можна пазнаёміцца з побытам беларусаў. Тут з цікавасцю раскажуць зам пра ручнікі, традыцыйнае адзенне. Жаночы нацыянальны касцюм прадстаўлены гарадзенскім строем. Прычым андарак быў сатканы і пашыты на самым пачатку XX стагоддзя. А вось мужчынскі касцюм – перададзены музею жыхарамі вёскі Жыцькава.*

*Другая заля раскажа пра гісторыю вёскі Жыцькава, яе школы. Пазнаёміць з лёсам аднавяскоўцаў у гады Вялікай Айчыннай вайны. Тутэйшыя экскурсаводы пакажуць вам калекцыю старых грашовых знакаў. Вашай увазе будзе прадстаўлена свідраваная сякера і сякера – клін, якія пацвярджаюць, што тэрыторыя вёскі ў глыбокай старажытнасці была заселена. Не кожны школьны музей можа пахваліцца акамянеласцямі марскіх ракавін, якія адносяцца да позняга палеазою. Цікава? Сапраўды. Бо гэтым знаходкам каля 60 мільёнаў год. У той час большая тэрыторыя Беларусі была заліта морам.*

*Ды наогул, ці можна ўсё пералічыць? Калі ласка, заходзьце! Усё вам пакажуць і раскажуць!*



**У этнаграфічнай залі музея (злева)**

**Каменныя сякеры, што знойдзены ў наваколлях Жыцькава (зверху)**

**Акамянеласці з экспазіцыі музея (знізу)**




Выгляд з Брылёўскага поля на месца пераправы і Студзёнку

# БАРЫСАЎШЧЫНА АД НАЙСТАРАЖЫТНЫХ ЧАСОЎ ДА СУЧАСНАСЦІ

*(Працяг, пачатак у № 1-16, 18 - 20, 22 - 29 за 1996 - 2001 гг.)*

У ноч з 16 на 17 лістапада французы скончылі пераправу. Для гэтага ім прыйшлося расчысціць масты ад павозак і ўцекачоў. Апошнім на правы бераг перайшоў каля 4-х гадзін ранку 17 лістапада корпус Віктора.

Калі ўцекачы зразумелі, што ўсе войскі перайшлі на правы бераг і масты хутка будуць знішчаны, кінуліся да пераправы. У паніцы і цісканіне зноў, як і 16 лістапада, загінула шмат цывільных французаў. У палове дзевятага масты былі спалены. Пазней быў спалены і мост праз Гайну на Зембін.

З 30-тысячнага французскага войска, што падышло да Студзёнкі, перабрацца на правы бераг здолела толькі 20000, з якіх баяздольнымі заставалася толькі 9000.

У 6 гадзін ранку 17 лістапада Напалеон выйшаў з Занівак і накіраваўся ў Зембін. Там ён на пэўны час затрымаўся, пасля чаго рушыў на Камень і Плешчаніцы, дзе правёў наступную ноч.

Тым часам у Барысаў з усходу праходзілі маскоўскія войскі. У горадзе яны не затрымліваліся. Былі зроблены плыты, на якіх жаўнеры пераправяляліся праз Бярэзіну і рушылі далей. Сам Кутузаў звярнуў з асноўнага шляху і праз Бярэзіну пераправіўся ў іншым месцы.

Пасля перапавы французаў на яе месцы і ў Бярэзіне засталося шмат палеглых вайскоўцаў і цывільнага насельніцтва, шмат параненых, вялікая колькасць разнастайнай маёмасці. Параненыя чакалі дапамогі, але аказаць яе не было каму. Таму яны адзін за адным гінулі ад моцных маразоў.

Для расчысткі месцаў баёў была сабрана вялікая колькасць сялян з усяго павета. Тысячы трупаў былі закапаны ў вялізарных ямінах ля Студзёнкі. З Бярэзіны было выцягнута шмат загінуўшых дзяцей, мацярок з малымі дзеткамі і немаўлятамі. Было сабрана шмат пакінутых трафеяў, рэчаў з фарфору, крышталю, срэбра, золата, вялікая колькасць карцін, статуэтак ды шмат чаго яшчэ. Пры гэтым асобныя экіпажы даводзілася літаральна высякаць з ільда. Усе тамтэйшыя двары як сялян, так і шляхты былі поўныя трафейнай маёмасцю. Сабранага ж жалеза хапіла тутэйшым майстрам больш чым на дваццаць год.

Пасля баёў у наваколлях Студзёнкі засталося шмат французскіх хлопцаў і дзяўчат, якія засталіся без бацькоў. Яны, запалоханыя і галодныя, не ведалі куды падацца. Толькі адзінкі з іх змаглі добра ўладкавацца. Большасць была падабрана і амаль задарма прадана або ўзята ў якасці прыслугі ці іншых працаўнікоў.

### Паміж вайной і паўстаннямі

У наш горад Кутузавым быў прызначаны камендантам палкоўнік Свечын. 24 лістапада ён прыбыў у Барысаў. Новы камендант арганізаваў збор трупаў, што засталіся ў горадзе пасля баёў. Усяго было вывезена за яго межы і спалена больш за 6000 забітых. Астатнія былі пахаваны. Усяго каля Барысава і Студзёнкі было спалена некалькі дзесяткаў трупаў, вялікая колькасць палеглых коняў.

Першага студзеня ў Барысаў вярнуліся спраўнік Сакалоў і прыстаў Шыманоўскі, а 12 снежня – гараднічы Шацілаў.

Пасля пераходу Барысава да рускага войска ў ім працягвала знаходзіцца вялікая колькасць жаўнераў, апалчэнцаў і палонных французаў. Паколькі ўсіх параненых размясціць у горадзе не было магчымасці, быў арганізаваны дадатковы шпіталь у Жыцькаве. Там было размешчана каля 3000 параненых як французаў, так і рускіх. Аднак эпідэмія тыфу, што мела месца ў далейшым, адабрала жыццё амаль паловы з іх.

*(Працяг будзе)*
*М.Мацельскі*





Помнікі на Брылёўскім полі:
- рускаму войску; усталяваны да 100-годдзя тутэйшых падзеяў, разбураны падчас далейшых вайсковых дзеянняў і адноўлены ў 1992 годзе (зверху);
- французскім войскам, якія загінулі падчас пераправы (злева);
- рускаму войску; усталяваны да 150-годдзя тутэйшых падзеяў (знізу).



# Верасень

Верасень – пачатак восені. Назва паходзіць ад расліны верас, якая цвіце ў гэты час года. На сярэдзіне месяца вышыня Сонца над гарызонтам у поўдзень 39,2°С, яно праходзіць праз пункт асенняга раўнадзенства. Сярэднемесячная тэмпература паветра 11,6°С. У верасні больш паловы дзён пахмурных, ясных – 6 – 10. У той жа час на Беларусі ён найменш дажджлівы месяц года. Бываюць працяглыя імжыстыя дажджы.

У верасні выбіраюць бульбу, аруць поле на зябліва, збіраюць садавіну і агародніну. Звычайна з сярэдзіны месяца пачынаецца лістапад, выспявае насенне травяністых раслін, ападаюць арэхі ляшчыны, жалуды дуба, крылатыя плодзікі клёну, арэшкі ліпы, насенне елкі. Выспявае рабіна, каліна, акацыя, талакнянка, абляпіха, на балотах – журавіны. У канцы верасня назіраецца зварот цяпла – так званае бабіна лета: стаіць малавоблачнае надвор'е з ціхім ветрам паўднёвага напрамку. У паветры лётае павуцінне – раней яго бывала столькі, што іржышча пакрывалася белай коўдрай; гэта рассяляюцца павучкі – цянетнікі. Бабіна лета прадаўжаецца ад некалькіх дзён да двух, зрэдку больш, тыдняў. У 1975г. ў Мінску яно цягнулася з 8 верасня цэлы месяц. Але прыкладна раз у 7 гадоў яго не бывае.

Адлятаюць у вырай птушкі: а з поўначы прылятаюць уюркі і паўночныя жаваранкі. Ліняюць пушныя звяры, заканчваецца гон у капытных жывёл. Рыбы збіраюцца ў глыбокіх месцах.

*М.Пучыла*





*Гэтыя здымкі зроблены сёлета ў розных месцах на поўдзень ад Барысава ў розных месцах і ў розны час. Аднак паўсюль бачна адно - свежая высечка "патрэбных" дрэваў і пакінутыя "непатрэбныя" іх часткі*



# Пірацкая высечка лясоў

Наша газета ўжо не раз пісала пра тую велізарную афіцыйную і неафіцыйную высечку лесу, што ідзе на Барысаўшчыне. Яе наступствы, якія выправіць будзе практычна немагчыма, мы, пэўна зразумеем толькі тады, калі гэта непасрэдна адаб'ецца на нас, як часткі той самай экасістэмы. Але ці не будзе ўжо занадта позна?

Яшчэ адной праблемай на шляху захавання лясоў, якой на сённяшні час практычна не надаецца ніякай увагі – незаконная высечка асобных найбольш каштоўных дрэў. Адбываецца гэта пераважна ў больш глухіх мясцінах. Пры гэтым акрамя вынішчэння лепшага генафонда заадно губяцца навакольныя маладыя дрэвы. Ад самаго ж дрэва забіраецца толькі самая неабходная яго частка. Усё астатняе па-варварску пакідаецца парахнець у лесе. Тое ж адбываецца і ў тым выпадку, калі падчас падзення дрэва моцна зачэпліваецца і "пірацкай" тэхнікай яго не атрымліваецца вызваліць.

**В.Стэфановіч**

## Восень

Восень – перыяд года ў Паўночным паўшар'і паміж 23 верасня і 22 снежня (у Паўднёвым паўшар'і паміж 21 сакавіка і 22 чэрвеня); умоўны пераходны сезон паміж летам і зімой характарызуецца зніжэннем тэмпературы паветра і зменай у рэжыме ападкаў, адбываюцца пэўныя з'явы ў жывой прыродзе.

На Беларусі на поўначы і ўсходзе восень наступае ў 3-й дэкадзе, на поўдні і захадзе – на мяжы верасня – кастрычніка. Заканчваецца з паяўленнем снежнага покрыва ў канцы лістапада. На працягу восені павольна паніжаецца тэмпература паветра і глебы, часта ідуць дажджы, але агульная колькасць ападкаў памяншаецца, узмацняецца вецер. Пасля бабінага лета настае сырая і пахмурная восень. Павялічваецца воблачнасць, пераважаюць дробныя зацяжныя дажджы, яны спрыяюць назапашванню ў глебе вільгаці, неабходнай для раслін. Здараюцца раннія замаразкі, вымаканне палявых культур. У феналогіі восень падзяляецца на падсезоны: І-ы цягнецца ад канца жніўня да канца верасня, супадае з паяўленнем першых спелых пладоў антонаўкі і выспяваннем ягад рабіны. Яго канец характарызуецца поўнай асенняй афарбоўкай клёну вастралістага. Адлятаюць птушкі. 2-і падсезон – залатая восень, пара самай густой асенняй размалёўкі лісця, масавага лістападу. Жывёлы заканчваюць падрыхтоўку да зімоўкі. Часцей здараюцца замаразкі. Клён вастралісты застаецца без лісця – канец падсезона. 3-і падсезон – позняя восень. Сярэдняя сутачная тэмпература праходзіць праз 0°С. Большасць дрэў і кустоў ужо без лісця, спыняецца вегетацыя ў азімага жыта. Выпадае першы снег.

**М.Пучыла**

## Самы маленькі горад на Беларусі

Самым маленькім горадам на Беларусі з'яўляецца Косава (Івацэвіцкі раён Брэсцкай вобласці). Яго насельніцтва складае ўсяго 2,8 тысяч жыхароў, што ў разоў 2,5 менш, чым насельніцтва Лошніцы.

Нягледзячы не свае малыя памеры ў Косава маецца шмат цікавага. Гэта гарадзішча X – XI стагоддзяў, унушальныя па сваіх памерах рэшткі палаца, які быў пабудаваны ў 1838 годзе, касцёл (пабудаваны ў 1878 годзе), капліца, што ўзведзена з надмагільных плітаў, дзве царквы (адна цагляная, пабудавана ў 1868 годзе, другая драўляная, узведзена ў сярэдзіне XIX стагоддзя), помнік Касцюшка на месцы, дзе быў маёнтак у якім нарадзіўся Т.Касцюшка, помнік паўстанцам 1863-64 гадоў і шмат чаго яшчэ...

**А.Гурскі**

## Інтэрнэт – агляд

Вялікі перапалох адбыўся на днях у дыпламатычным раёне Чанакьяпуры Індыйскай сталіцы. У тамтэйшыя праваахоўчыя органы, якія на той момант знаходзіліся ў стане павышанай гатоўнасці ў сувязі з тэрактамі ў ЗША, паступіў сігнал аб неапазнаным лятаючым аб'екце. Паліцыя адразу з'явілася на месца "здарэння". Усё стала зразумела пасля прызямлення "НЛА" на тэрыторыі амерыканскай амбасады. Прычынай перапалоху быў звычайны метэаралагічны зонд.

* * *

Як паведамляе інфармацыйнае агенцтва Xinhua, кітайскія распрацоўшчыкі займаюцца распрацоўкай "гіпергукавога самалёта", які зможа развіваць хуткасць у пяць разоў болей за хуткасць гуку. Такі самалёт зможа здзейсніць падарожжа вакол свету ўсяго за 8 гадзін. Мяркуецца, што на яго распрацоўку спатрэбіцца 10 – 15 год

* * *

Вынікі даследаванняў, якія былі праведзены брытанскімі навукоўцамі з універсітэта графства Суррэй у горадзе Гілфардзе, паказалі, што чалавек, магчыма, валодае невядомымі раней рэцэптарамі, якія дазваляюць успрымаць ультрафіялетавыя выпраменьванні.

* * *

У Мюнхене (Нямеччына) трыццацітрох гадовая жанчына на працягу трох гадзін абрабавала шэсць банкаў на суму 75 тысяч марак. Як у далейшым яна патлумачыла свае дзеянні на судзе, асноўную частку грошай яна меркавала выкарыстаць на пластычную аперацыю па ўдаленню тлушчу (сама немка важыць 90 кілаграм.

* * *

Адзін пяцідзесяцігадовы аўстраліец з Мельбурна трапіў з пераломам нагі ў лякарню. Свой ідэнтыфікацыйны нумар, які ён там атрымаў, хворы ўпісаў у латэрэю. Якое ж было яго здзіўленне, калі праз пэўны час ён даведаўся, што яго гэты нумар выйграў мільён даляраў!

* * *

У Італіі на першынстве па забойству камароў быў усталяваны новы ракорд – 28-гадовы Крысцін Рыцата за 15 секунд змог забіць 47 камароў.

## У 1938 годзе былі расстраляны апошнія тутэйшыя святары

З сённяшніх падручнікаў гісторыі падрастаючаму пакаленню больш – менш вядома пра жудасныя факты бальшавіцкага тэрору ў 1918 – 1923 і 1937 – 1938 гадах.

У маіх руках знаходзяцца некаторыя дакументы, якія сведчаць пра ахвяры сярод барысаўскіх святароў з Свята - Андрэеўскай царквы (цяпер яна рэканструявана і належыць стараабрадцам).

Настаяцеля барысаўскай царквы святога Андрэя М.С.Мацкевіча арыштавалі 15 жніўня 1937 года і зняволілі ў канцлагер тэрмінам на 10 гадоў, дзе ён бясследна знік. Пасля яго настаяцелем Андрэеўскай царквы стаў Іван Мікалаевіч Мацкевіч, які да гэтага служыў у царкве вёскі Неманіца Барысаўскага раёна. Але праз кароткі адрэзак часу ён таксама быў арыштаваны як апошні праваслаўны святар горада Барысава і рашэннем асобай тройкі НКУС БССР ад 30 снежня 1937 года засуджаны да вышэйшай меры (у сакавіку 1938 года расстраляны ў Менску, магчыма, дзесьці ў Курапацкім лесе). Трагічны лёс раздзяліў з ім і ўсе сябры царкоўнай рады храма святога Андрэя і нават вартаўнік дадзенай царквы (усяго 8 чалавек). Згадаю іх паіменна: А.С.Шаўчук (1886 – 1938), А.Е.Шапчыц (1876 – 1938), Т.П.Лобач (? – 1938), Я.І.Мазоль (1867 – 1938), Р.Р.Самцаў (1883 – 1938), А.С.Быкаў (1870 – 1938), В.А.Станкевіч (1864 – 1938), вартаўнік А.Ф.Вячэрскі(1897 – 1938).

У 1956 годзе па пратэсту пракуратуры Менскай вобласці справу ў дачыненні Мацкевіча І.М., 1881 года нараджэння, ураджэнца вёскі Слаўкавічы Глускага раёна спынілі з-за недаказанасці абвінавачвання, г. зн. яго рэабілітавалі.

Як "член сям'і ворага народа" пацярпела і ягоная дачка Ірына Іванаўна Мацкевіч – 11 гадоў запар правяла ў ссылцы ў аддаленых раёнах СССР. Насуперак сваёй цяжкай долі яна вярнулася ў Барысаў і жыве зараз у адной з келляў Свята-Ўваскрасенскага сабора. Ёй 89 гадоў, але яна, як і раней, мае ясны розум і добрую памяць. Пры дапамозе акуляраў чытае сур'ёзныя кнігі.

**А.Шустоўскі**

*P.S. На развітанне І.Мацкевіч папрасіла выказаць на старонках газеты "Гоман Барысаўшчыны" шчырую падзяку ўрачам барысаўскай паліклінікі № 1. Маўляў, гэта яны падтрымлівалі і падтрымліваюць яе патрэбнымі лекамі, асабістай увагай і дабрынёй.*



*Святар Мацкевіч са сваёй жонкай (справа). Здымак 1903 года*

*Даведка аб рэабілітацыі святара Мацкевіча (знізу)*



29. сентября
№ 345-ne

ПРОКУРАТУРА
Союза Советских Социалистических Республик
ПРАКУРАТУРА Мінскай вобласці Беларускай ССР
ПРОКУРАТУРА Минской области Белорусской ССР

Гр-ке. МАЦКЕВИЧ Неонилие Михайловне

Минская область, гор.Борисов,
ул.Свободы, дом № 88

Сообщаю, что по протесту прокуратуры Минской области дело в отношении Вашего мужа МАЦКЕВИЧ Ивана Николаевича 1881 года рождения, уроженца дер.Славковичи, Глусского района, Минской области 19 сентября 1956 года рассмотрено Президиумом Минского Областного Суда.

Президиум Минского Областного Суда отменил Решение Особой Тройки НКВД БССР от 30 декабря 1937 года, которым был осужден МАЦКЕВИЧ И.Н. и дело производством прекратил за недоказанностью обвинения.

ЗАМ.ПРОКУРОРА МИНСКОЙ ОБЛАСТИ
Мл.Советник Юстиции:- /Н.ЗУБАРЬ/

# Футбольны агляд



Фота IREX/ProMedia

## БАТЭ

Адбыўся матч 1/16 кубка Беларусі па футболу **БАТЭ (Барысаў) – СКАФ (Менск)**, 6:0 (Лісоўскі 42 хв., Канцавы 49, 68, 74 хв., Мірончык 86 хв., Ганчарэнка 89 хв.).

На гульню з камандай другой лігі нацыянальнага першынства барысаўцы выйшлі дублюючым складам, які быў разбаўлены некалькімі асноўнымі гульцамі. Госці самааддана абараняліся на працягу ўсяго першага тайма. Напрыканцы першай паловы гульні майстэрства Аляксандра Лісоўскага дазволіла БАТЭ выйсці наперад. Другі тайм расставіў усё на свае месцы. К таму часу студэнты толькі і думалі аб абароне сваіх варот. На працягу дваццаці пяці хвілін тройчы поспеху дабіўся Канцавы. Напрыканцы гульні адзначыліся Мірончык і Ганчарэнка. Гол апошняга быў забіты моцным ударам з-за мяжы штрафной пляцоўкі.

* * *

**Ведрыч 97 – БАТЭ**, 0:3 (Кутузаў, Ганчарык 2 галы).

Гульня прайшла пад дыктоўку барысаўцаў. У першай палове першага тайма гульцы БАТЭ не выкарысталі некалькі выгадных момантаў. Аднак напрыканцы першай паловы гульні гол у вароты Ведрыча ўсё ж адбыўся. Атрымаўшы мяч ад Бяганскага, Кутузаў паказаў добрую тэхніку, прабіў у вугал варот. На пачатку другога тайма новы гулец БАТЭ Аляксандр Кабец аддаў мяч Ганчарыку, які зрабіў лік 2:0. Гаспадары прадпрынялі штурм варот барысаўцаў, аднак былі злоўлены на контратацы. Лісоўскі – Кутузаў – Аляшкевіч разыгралі ўзорную па беларускіх футбольных мерках камбінацыю, аддалі мяч Ганчарыку, які зрабіў лік 0:3 на карысць барысаўскай каманды.

* * *

**БАТЭ – Лакаматыў-96**, 2:0 (Рагожкін, Канцавы).

Гэта гульня стала генеральнай рэпетыцыяй перад сустрэчай з Міланам. Першая палова першага тайма прайшла ў роўнай барацьбе. Дзесьці пасля 20-й хвіліны стала праяўляцца перавага барысаўцаў. На 24-й хвіліне пры падачы вуглавога мяч пападае да Рагожкіна і ад яго трапляе ў вароты. Пасля гэтага барысаўцы ўтварылі каля варот віцебчукоў столькі момантаў, што, каб пералічыць іх, наўрад ці хапіла пальцаў на руках. Але мяч у вароты ўпарта не ішоў. Трэба адзначыць, што тры галы, якія забілі гаспадары, не былі залічаны суддзёй. Госці працягвалі змагацца, нават калі засталіся ў меншасці. Адзін з удараў Пазняка трапіў у штангу варот БАТЭ. Усе пытанні ў гульні зняў мяч Канцавога напрыканцы гульні.

БАТЭ на гульні была ў наступным складзе: Жыўноў, Рагожкін, Мардас, Бага, Ганчарэнка (Канцавы), Аляшкевіч, Кабец, Ганчарык (Лашанкоў), Лісоўскі (Малаш), Кутузаў, Бяганскі.

* * *

**БАТЭ – Мілан**, 0:2 (Шэўчэнка 64, Хаві Марэна 88).

Склад БАТЭ: Федаровіч, Нявінскі, Мардас, Малаш, Бага, Рагожкін, Мірончык (Грыгараў 71), Кабец (Канцавы 56), Аляшкевіч, Лашанкоў, Кутузаў.

Склад Мілана: Абб'яці, Контра (Гаттузо 28),Лаўрсэан, Роке Жуніор, Мальдзіні, Броккі (Сарр 83), Альберціні, Сержыньё, Данаці (Пірло), Хаві Марэна, Шэўчэнка.

Першы небяспечны момант узнік ля варот Мілана. Аляшкевіч навесіў на Кутузава, але Абб'яці змог дацягнуцца рукамі да мяча. Праз тры хвіліны Кутузаў робіць добрую перадачу на Аляшкевіча, але той не трапляе ў вароты.

Да сярэдзіны першага тайма італьянцы паступова перахапілі ў гульні ініцыятыву. На 43-й хвіліне Хіві Марэна праходзіць па цэнтры, урываецца ў штрафную, але ўдар атрымліваецца слабым. Федаровіч лёгка ловіць мяч.

За некалькі секунд да заканчэння першага тайма Лаўрэн моцна прабівае па варотах БАТЭ, але мяч праходзіць вышэй.

У другім тайме перавага цалкам перайшла да італьянцаў. Замены, што былі праведзены, зрабілі сваю справу. Праз две хвіліны пасля пачатку гульні няўзгодненыя дзеянні бramніка і абаронцаў БАТЭ прывялі да таго, што Марэна моцна прабівае па варотах. Мяч прайшоў міма.

Праз чатыры хвіліны Пірыа ўрываецца ў штрафную пляцоўку БАТЭ, але яго апярэджвае Федаровіч. На 54-й хвіліне моцна ў левую дзевятку ад Федаровіча б'е Пірыа. Варатар выратоўвае становішча.

Прызначаецца штрафны.Сержыньё навешвае на Шаўчэнку, і тої галавой перапраўляе мяч у вароты. Трэба заўважыць, што замены, якія зрабіў Пунтус, былі паспяховыя. Пасля таго, як на поле выйшлі Канцавы і Грыгараў, у гульні БАТЭ адчулася палягшэнне. Канцавы праз некалькі хвілін пасля выхаду прарываецца па праваму флангу і аддае мяч Кутузаву. Апошні вяртае яго Канцавому, які наносіць удар вышэй варот.

Напрыканцы матча Сержыньё праходзіць па леваму флангу і аддае мяч Хаве Марэна, які без праблемаў робіць лік 0:2.

Добрую тэхніку напрыканцы гульні паказаў Рагожкін. Наносіць моцны ўдар. Мяч трапляе ў перакладзіну. Лік застаецца без змен.

* * *

Пасля гульні прэзідэнт БАТЭ Анатоль Капскі меў сустрэчу з кіраўніцтвам Мілана па поваду пераходу Віталія Кутузава ў італьянскі суперклуб.

* * *

У рамках 1/16 кубка Беларусі БАТЭ 14 кастрычніка сустрэнецца з камандай Тарпеда – МАЗ.

### Хто што мае

| Брамнікі | Г | П/М | П | У | |
|---|---|---|---|---|---|
| Аляксандр Федаровіч | 12 | 14 | - | - | |
| Юры Жыўноў | 6 | 5 | - | - | |
| **Абаронцы** | **Г** | **З/М** | **Пс** | **П** | **У** |
| Генадзь Мардас | 16 | - | 1 | 3 | - |
| Віталь Рагожкін | 16 | 2 | 6 | 3 | - |
| Уладзімір Нявінскі | 13 | 1 | - | 1 | - |
| Віктар Ганчарэнка | 11 | - | 1 | - | - |
| Дзмітры Малаш | 8 | 1 | - | - | - |
| Віталь Панасюк | 5 | - | - | - | - |
| Сяргей Кузняцоў | 1 | - | - | - | - |
| **Паўабаронцы** | **Г** | **З/М** | **Пс** | **П** | **У** |
| Яўген Лашанкоў | 16 | - | 3 | 1 | - |
| Аляксей Бага | 15 | 1 | - | 4 | - |
| Леанід Лагун | 13 | 4 | 4 | 1 | - |
| Аляксандр Цярэнцеў | 9 | - | - | - | - |
| Сяргей Мірончык | 9 | - | - | - | - |
| Аляксандр Лісоўскі | 9 | - | 2 | 1 | - |
| Аляксандр Кабец | 3 | 1 | 1 | - | - |
| Алег Аляшкевіч | 3 | 1 | 1 | - | - |
| **Нападнікі** | **Г** | **З/М** | **Пс** | **П** | **У** |
| Віталь Кутузаў | 18 | 14 | 9 | - | - |
| Арцём Ганчарык | 16 | 3 | 6 | - | - |
| Вячаслаў Грыгараў | 16 | 2 | 1 | - | - |
| Арцём Канцавы | 1 | 6 | 1 | 1 | - |
| Павел Бяганскі | 12 | 6 | 3 | - | - |
| Уладзімір Таран | 3 | - | - | - | - |

**Г** – гульні, **П/М** – прапушчана мячоў, **З/М** – забіта мячоў, **Пс** – пасы, **П** – папярэджанні, **У** – удаленні.

## Гайна

Апошнім часам тутэйшы футбольны клуб Гайна меў наступныя вынікі:

**Гайна – Любань**,3:2 (Keралідзі 2 галы, Дзем'яновіч);

**Зорка (Мар'іна Горка) – Гайна**, 1:1 (Круглік);

**Гайна – Бярэзінскае (Маладзечанскі раён)**, 7:0 (Свядыш 3 галы, Лампартэр, Дзямьяновіч 2 галы, Вараб'ёў);

**Гайна – Аўтамабіліст**, 7:1 (Свядыш 3 галы, Дем'яновіч 2 галы, Кераліддзі,Жораў).

## Гульні ў Барысаве

31 жніўня – 4 верасня на барысаўскім стадыёне праходзілі адборачныя гульні да моладзевага першынства Еўропы.

**Беларусь – Украіна**, 1:2 (Юрэвіч).

У цэлым роўная гульня завяршылася перамогай гасцей. Валееў, які застаўся без нагляду, адкрыў лік. Беларусы намаганнямі сваіх лідэраў паспрабавалі штосьці змяніць, аднак нічога не атрымалася. На 31-й хвіліне госці маглі забіць яшчэ адзін гол, але ўдар Беліна трапіў у перакладзіну.

Пераломм у гульні наступіў пасля замены Ледзянова на Блізнюка. Напрыканцы першага тайма моцна б'е з 20 метраў Юрэвіч і трапляе ў вароты. Другі тайм прайшоў з пераменным поспехам. На пачатку другой паловы беларусы маглі двойчы забіць гол і схіліць лёс на свой бок. Але гэтага не здарылася. Спачатку Шалайка, якога пакінулі аднаго ў штрафной пляцоўцы, прамахнуўся з выгаднай пазіцыі. Потым удар Блізнюткі прыйшоўся ў штангу.

Не забіваеш ты – забіваюць табе. Так і здарылася на 65 хвіліне, калі Ткачэнка забіў пераможны гол.

## Матчы з удзелам барысаўцаў

Адбыўся матч з удзелам барысаўцаў **Беларусь – Польшча**, 3:3 (Кутузаў 2 галы, Стахановіч).

Беларусы пачалі сустрэчу актыўна. Ужо на 3-й хвіліне Кутузаў адкрыў лік. Але ўжо на 11-й хвіліне госці маглі зраўняць лік. У вароты гаспадароў быў прызначаны адзінаццаціметровы ўдар. Але брамнік змог адбіць мяч Расяка. На 20-й хвіліне па леваму флангу праходзіць Бага і аддае пас Кутузаву, які без цяжкасцей абыграў абаронцу і зрабіў лік 2:0. Трэці мяч са штрафнога забіў Стахановіч.

Мелі магчымасці забіць і палякі. Самым небяспечным момантам быў удар галавой Расяка, мяч трапіў у перакладзіну. Беларусам у першым тайме пашанцавала другі раз. У другім тайме палякі цалкам дамінавалі на полі. Напачатку Гараўскі, які выйшаў на замену, зрабіў лік 3:1. Гэты гол натхніў палякаў на далейшыя актыўныя дзеянні. Для беларускай абароны гэта было поўнай нечаканасцю. Гол у нашы вароты забівае Кавальчык. Пазней Коўба трапляе ў перакладзіну. Выправіць становішча маглі нашы гульцы Шагойка і Кутузаў, калі выйшлі да варот суперніка, але яны не здолелі змяніць лік. На 90-й хвіліне палякі атрымалі права на штрафны ўдар, але мяч пралятае міма. У дадатковы час Ольшар параўноўвае лік.

У выніку матча каманда Юрыя Пунтуса згубіла ўсе шанцы трапіць в Play opf.

* * *

Пасля матча з Польшчай трэнер маладзёжнай зборнай Беларусі Юры Пунтус падаў у адстаўку. Аднак адстаўка не была прынята з-за таго, што ўсю маладзёжнай зборнай у наступным адборачным цыкле будуць займаць таксама гульцы БАТЭ.

* * *

Зараз праходзіць першынство Еўропы па футболу сярод калектываў чыгуначных дарог. У спаборніцтвах будуць удзельнічаць прадстаўнікі нашага горада. Гэта Аляксей Круглік, Андрэй Максімовіч і Ігар Бакун. Аб выніках іх выступлення мы паведамім у наступным нумары.

*С. Чарнуха*




# Забытыя гульні

"Повад", дзіцячая гульня. Дзеці розных узростаў выстройваліся адзін за адным у лінію, браліся за рукі і ўтваралі "повад". Першым станавіўся дужы хлапчук, ён жа вядучы. Па сігналу ўсе беглі за ім; вядучы ж вёў "повад" у кручаным, разнастайным кірунку. Імкнучыся хутчэй разбурыць ланцуг, зрабіць "кучу-малу".

Гулялі дзеці і ў "Белку трэсці". Гульцы станавіліся адзін за адным, нахіліўшыся, кожны абдымаў папярэдняга за пясніцу, Апошні ўдзельнік садзіўся на папярэдняга як на каня, хутка і спрытна поўз па спінах наперад, а ланцуг трос "пералазчыка", каб скінуць на зямлю. Калі той перапаўзаў, то станавіўся першым. Такі ж шлях пачынаў цяпер апошні. Так рабіў кожны, хто гуляў.

Сярод моладзі і дарослых былі пашыраны веснавыя танцы-гульні, карагоды-гульні, якія адлюстроўвалі палявыя работы, шлюбную пару і інш. Адзін з танцаў-карагодаў называўся "Журавель". Некалькі дзяўчат танцавалі, іншыя ахоўвалі іх ад "жураўлёў" - хлопцаў і спявалі:

**Пасею я лён – канапель,**
**Налятае журавель...**

Хлопцы лавілі дзяўчат. Вядома і карагод -гульня "Заінька". У сярэдзіне карагода танцаваў "заінька", ён імкнуўся выскачыць з круга.

**Праскачы, зайка, у дзірачку**
**Ды вылامі сабе былінaчку.**

"Заінька" хапаў каго-небудзь з карагода і станавіўся на яго месца.

Такія гульні і танцы існавалі на Беларусі ў многіх варыянтах.

*Падрыхтаваў М.Пучыла*

# З гаспадарчага дзённіка Ганны Цюндзявіцкай

**Як зберагчы зубы здаровымі і белымі**

Жадаючы мець здаровыя зубы, ніколі не трэба ўжываць гарачыя стравы і напоі ўперамешку з халоднымі, бо ад гэтага эмаль на зубах псуецца і трэскаецца. Лепш за ўсё ўсялякую ежу есці напалову ахаладжанай і засцерагацца кіслот, ласункаў і солі.

Зубы належыць уранку, увечары і кожны раз пасля яды паласкаць вадой не залішне халоднай ці цёплай, а такой, якая бывае ўлетку ў рацэ. Рабіць тое варта дзеля таго, каб на зубах не заставаліся часцінкі ежы, што іх раз'ядаюць і псуюць. Асадак жа на паверхні зубоў, а асабліва ля самых дзяснаў, неабходна штодзённа чысціць знарок зробленай прыладай альбо пазногцем, прычым асцярожна, каб не параніць дзясны і не сцерці эмаль, бо тады зубы будуць адчувальнымі да кожнага змянення тэмпературы ежы і нават самога паветра. З тае ж прычыны недапушчальна карыстацца цвёрдымі шчоткамі, а можна толькі мяккімі, губкаватымі. Нельга таксама штодзённа шараваць зубы парашкамі. Лепш два разы ў тыдзень ужываць парашок з бярозавага вугалю, як мага драбней патоўчанага і прасеянага праз муслін. Ён надае зубам цудоўны белы колер і ніколькі іх не псуе. У іншыя дні раю чысціць зубы мяккім тытунём, працёртым без попелу, што мае якасць марыць чарвячкоў, якія псуюць нашы зубы, а такеама з'яўляецца сродкам прадухілення захворвання і лякарствам супраць зубнога болю. Такі ж вынік дае і парашок з тытуню, прапаленага ў люльцы.

Раз у тыдзень льга нацерці зубы з усіх бакоў злёгку увільготненым палатном, намыленым тоўстым слоем простага рускага мыла. Яно здымае ўсе асадкі, якія цвярдзеюць і ўтвараюць, асабліва каля дзяснаў, жаўтавата – зеленаваты абадок, што не толькі робіць зубы непрыгожымі, але і шкодзіць ім. Калі такі абадок ужо ўтварыўся, яго павінен зняць вопытны дантыст.

Для ўмацавання дзяснаў неабходна штодзённа паласкаць рот півам, настоеным на цёртым хрэне. Гэта нават лечыць зубы і захоўвае ад цынгі, як і парашок з кораня аеру.

Калі ж у каго зубы псуюцца, напалову сточаныя і без эмалі, то няхай зал'е гарэлкай ці спіртам масціку напапалам з мірам, развядзе вадой і палошча рот. Смолы, утвараючы плеўку на зубах, робяць іх не вельмі адчувальнымі да халоду і цяпла.

*Перадаў М Пучыла*

# Парады ад Наталлі

**Булачкі з бульбы**

750г. мукі, 300г. бульбы, 40г. дражджэй, 3 яйкі, 170г. цукру, у тым ліку 50 для абсыпання булачак, 120 г. масла, каля 0,5 л малака, тлушч для змазвання бляхі.

Абабраную бульбу адварыць, працерці праз сіта. Дрожджы расцерці з 1 ч лыжкай цукру. Расцерці масла, дадаючы па чарзе жаўткі (з двух яек), цукар, бульбу, дрожджы, малако, муку, узбітыя ў пену бялкі, замясіць цеста. Адразу ж сфармаваць невялікія булачкі, выкласці іх на змазаную тлушчам і абсыпаную мукой бляху, паставіць у цёплае месца, каб цеста падышло. Перад тым як паставіць у духоўку, змазаць узбітым яйкам, пасыпаць цукрам.

З указанай колькасці прадуктаў павінна атрымацца каля 30 булачак.



## Прыватныя абвесткі

**Здыму**

• Аднапакаёвую кватэру ў раёне чыгуначнага вакзала, праспекта Рэвалюцыі, вуліцы Чапаева, т. 2-98-55

**Здаецца**

• Камфартабельнае памяшканне ў арэнду ў Лядзішчынскім доме афіцэраў, т. 9-82-21.

# Крыжаванка

*складзена па матэрыялах гэтага нумара*

**Па гарызанталі:** 1 – рака на Барысаўшчыне; 2 – вуліца ў Барысаве; 3 – старэйшая запалкавая фабрыка Барысава; 4 – паўабаронца БАТЭ; 5 – вёска на Барысаўшчыне; 6 – нападнік БАТЭ; 7 – барысаўскі святар, які быў расстраляны ў 1938 годзе; 8 – паўабаронца БАТЭ; 9 - барысаўскі святар, які быў расстраляны ў 1938 годзе; 10 – вуліца ў Барысаве; 11 – барысаўскі святар, які быў расстраляны ў 1938 годзе; 12 – тутэйшая запалкавая фабрыка на пачатку XX стагоддзя; 13 – крама ў Барысаве.

**Адказы на крыжаванку**, што змешчана ў "ГБ" № 8(29): 1 - Каладзееў; 2 - Старабарысаў; 3 - Саборная; 4 - Рыжы; 5 - Камсамольская; 6 - Харугвавая; 7 - Барань; 8 - Лошніца; 9 - Ганчарык; 10 – Радзівілы; 11 – Гігант; 12 – Дзяржынскага.

Для спакою і шчасця трэба так мала?!

## Раней расказвалі...

**У дарозе**

- Сядайце, дзядзечка, паедзем!
- Няма калі, ісці трэба!

**Развітанне**

Першы кум:
- Вып'ем, кум, яшчэ! Можа ніколі болей не ўбачымся. Ты ж заўтра ад'язджаеш!

Другі кум:
- Э-э, кум, я цябе ўжо і зараз не бачу!

**Невялікая розніца**

Прынесла цётка ігрушаў валасному старшыне.

А ён ёй кажа:
- І навошта прынесла. Свае б дзеткі паласаваліся.
- Ешце, пане начальнік, а дзеткам скажу, што свінка з'ела.

## Ці ведаеце вы, што...

На Барысаўшчыне ў сярэднім у год выпадае ад 600 да 650 міліметраў ападкаў.

Найбольшая колькасць ападкаў у Барысаве выпала ў 1932 годзе – 837 міліметраў.

Найбольш засушлівым у нашым горадзе быў 1963 год, калі выпала ўсяго 445 міліметраў ападкаў.

Максімальныя запасы вады ў снежным покрыве на Барысаўшчыне дасягаюць 75 – 80 міліметраў.

У сярэднім на Барысаўшчыне колькасць дзён з адлігамі ў снежні – лютым складае 30 – 35.

# Лічбавая крыжаванка

Ніжэй прыведзены пералікі лічбаў, якія згрупіраваны па іх колькасці. Вам неабходна падабраць і запісаць у незафарбаваныя радкі і слупкі лічбы такім чынам, каб супалі іх усе перасячэнні.

**7:** 7267261, 8510564;
**6:** 119387, 426423, 726426, 761573, 869554, 900381, 941126, 943815;
**5:** 12237, 12345, 12348, 15970, 17921, 29661, 36450, 46156, 49852, 59248, 62546, 72480, 74116, 74727, 76148, 76247, 78907, 94531;
**4:** , 2168, 2963, 3042, 3420, 3434, 3456, 3778, 4034, 4064, 4331, 4667, 4912, 5274, 5555, 6217, 6246, 6412, 6773, 7114, 7262, 7403, 7964, 8462, 8716, 8920, 8979, 9207;
**3:** 123, 141, 160, 234, 279, 294, 299, 339, 432, 444, 454, 482, 645, 651, 654, 680, 721, 775, 978;
**2:** 10, 11, 15, 17, 20, 21, 26, 41, 42, 45, 46, 56, 59, 66, 67, 86.

9 0 0

**Адказы на японскую і лічбавую крыжаванкі, што былі змешчаны ў "ГБ" №8(29)**

# Японская крыжаванка

Нагадваем, што ў японскай крыжаванцы неабходна адгадаць не словы ці размяшчэнне лічбаў, а выяву. Яна атрымліваецца на падставе аналізу лічбаў, што прастаўлены злева ад радкоў і над слупкамі. Лічбы паказваюць, колькі груп чорных клетак знаходзяцца ў адпаведным радку або слупку і колькі суседніх чорных клетак утрымлівае кожная група. Напрыклад, лічбы 3, 1 і 1 азначаюць, што ў гэтым радку ёсць тры групы чорных клетак, якія складаюцца: першая - з трох, другая - з адной і трэцяя таксама з адной чорнай клеткі. Групы падзелены паміж сабою не менш чым адной пустой клеткай. Пустыя клеткі могуць быць і па краях поля.

Слупкі (зверху ўніз): 2; 6; 5 3; 3 2; 3 4; 3 13; 19; 14 2; 13 1; 12 1; 13; 14; 15; 16; 17; 12 3; 11 2; 10 2; 10 1; 9; 9; 9; 10; 11; 17; 22; 18 3; 21 2; 17 4; 14 4; 10 3; 10 1; 7; 6; 3.

Радкі (злева направа): 1; 2; 2; 2; 2; 3 1 1; 2 4; 2 5; 2 7; 2 9; 2 9; 3 11; 13 11; 30; 28; 25; 25; 25; 25; 25; 24; 24; 15 6; 12 5; 5 5 5; 4 4 5; 2 3 2 3; 2 3 2 2; 2 2 1 2; 2 2 2 2; 3 2 3 2; 2 2.

# Конкурс для заўзятараў футбола

Па выніках пяці тураў лідэрамі з'яўляюцца:

**Віктар Бойка** (БАТЭ-Юні) – 18 ачкоў;
**Ігар Балаболаў** (Вікінг) – 18 ачкоў;
**Сяргей Аніскевіч** (ФК "Паліміз") – 16 ачкоў;
**Сяргей Пыжык** (Жыве Беларусь) – 16 ачкоў;
**Мікалай Камінскі** (А) – 12 ачкоў;

Нагадваем, што для ўдзелу ў конкурсе неабходна выразаць картку яго ўдзельніка з бягучага нумара газеты, запоўніць яе і даслаць ва ўказаны тэрмін на адрас газеты **(222120, Барысаў-1, а/с 43)**. Тэрмін будзе вызначацца па паштоваму штэмпелю.

Калі вы лічыце, што пераможа першая каманда, у полі для адказу ўказваецца лічба "1". Калі, на ваш погляд, пераможа другая каманда – указваецца "2", калі нічыя – "Х". За кожны правільны адказ удзельніку конкурсу будзе нададзена па аднаму ачку. На картцы насупраць кожнага матча можа быць указаны толькі адзін вынік. Ад аднаго ўдзельніка могуць дасылацца некалькі картак з рознымі варыянтамі адказаў, але пры гэтым кожная з іх абавязкова павінна мець сваю ўмоўную назву. Для кожнай умоўнай назвы балы будуць падлічвацца асобна. Пераможуць тыя, хто за ўвесь час правядзення конкурсу – да кастрычніка 2001 года ўключна набярэ большую колькасць балаў.

**Пераможцаў конкурсу чакаюць узнагароды.**

У шостым туры канкурсу неабходна спрагназаваць вынікі гульняў першынства Беларусі па футболу, якія адбудуцца 10 кастрычника. Тэрмін падачы картак 9 кастрычника.

Жадаем поспехаў!

**Картка ўдзельніка конкурсу**
**Шосты тур**

БАТЭ - Славія ____
Белшына - Нёман-Белкард ____
Тарпеда МАЗ - Днепр-Трансмаш ____
Лакаматыў-96 – Маладзечна ____
Ведрыч-97 - Шахцёр ____
Нафтан-Дэвон – Дынама (Мн) ____
Дынама (Бр) - Гомель ____
Імя ____
Прозвішча ____
Умоўная назва ____
(указваць абавязкова, калі высылаецца некалькі варыянтаў адказаў ад аднаго чалавека)
Адрас ____
Тэлефон ____

ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Рэгістрацыйны нумар 595
Заснавальнікі: І.Белы, У.Буйко, У.Дубаневіч, М.Мацельскі, М.Пучыла.
Рэдактар М.Мацельскі
Юрыдычны адрас рэдакцыі: г. Барысаў, 1-ы зав. К.Лібкнехта, 1
Наклад 3000 паасобнікаў
Падпісана ў друк 17.00 24.09.2001 г.
Замова № 6087
Друкарня імя 1-га Мая
г. Барысаў, вул. Будаўнікоў, 33
e-mail: gomanbar@irex.minsk.by

*Адрас для пісьмаў: 222120, Барысаў-1, а/с 43*